**Экзаменатар** — той, хто прымае экзамен, ацэньвае веды тых, хто яго здае.

**Экскурсія** (лац. *excursio* — вылазка) — форма і метад вучэбна-выхаваўчай працы, якія даюць магчымасць арганізаваць назіранне і вывучэнне разнастайных рэчаў і з'яў у натуральных умовах (прырода, гістарычныя месцы) або ў музеях, на выставах і інш.

**Эксперымент педагагічны** — навукова пастаўлены дослед у галіне вучэбнай або выхаваўчай працы, назіранне за педагагічнай з'явай у створаных даследчыкам умовах.

**Эстэтыка** (грэч. *aisthetikos* — які адчувае, успрымае; пачуццёвы) — навука аб прыгожым, аб ідэйнай сутнасці і формах прыгожага ў мастацкай творчасці, у прыродзе і жыцці.

**Эстэтычнае выхаванне** — мэтанакіраванае фарміраванне эстэтычнага густу і ідэалаў асобы, развіццё яе здольнасцяў да эстэтычнага ўспрымання з'яў рэчаіснасці і твораў мастацтва, а таксама да самастойнай творчасці ў галіне мастацтва.

**Этыка** (грэч. *ethikos* — звязаны са звычаямі) — навука аб маралі як адной з формаў ідэалогіі.

**Этычная гутарка** — адна з формаў этычнай асветы, якая выкарыстоўваецца ў сістэме маральнага выхавання.

## Я

**Яслі дзіцячыя** — установа, у якой ажыццяўляецца выхаванне дзяцей узростам да трох гадоў.

**Яслі-садкі дзіцячыя** — аб'яднаныя дашкольныя ўстановы для выхавання дзяцей да сямігадовага ўзросту.

*Укладальнікі:* Андарала Аляксандр Іванав...
Андарала Галіна Фёдараўна

*Камп'ютэрная вёрстка:* А. А. Пакала






Падпісана ў друк 29.06.95. Фармат 60×84 1/16. Папера друк. № 2.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 2,9. Ум. фарб.-адб. 3,4.
Ул.-выд. арк. 2,8. Тыраж 100 экз. Заказ 486 . Цана 3500 руб.

Ратапрынт БДПУ. 220809, г. Мінск, вул. Савецкая, 18.





*Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь*
*Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт*

# Кароткі тлумачальны слоўнік педагагічных тэрмінаў

*Мінск 1995*

ББК 74(92)

*Укладальнікі:* кандыдат педагагічных навук, дацэнт А. І. Андарала, кандыдат філалагічных навук Г. Ф. Андарала.

*Рэцэнзенты:* І. І. Паўлоўскі, кандыдат педагагічных навук, нам. дырэктара НІА; Л. К. Паўлава, кандыдат педагагічных навук, заг. сектара НІА.

Кароткі тлумачальны слоўнік педагагічных тэрмінаў уключае асноўныя, найбольш ужывальныя тэрміны педагагічных навук. У слоўніку ў алфавітным парадку змешчана больш за 400 тэрмінаў па розных галінах педагагічных ведаў (дыдактыцы, тэорыі выхавання, гісторыі педагогікі).

Прызначаны для студэнтаў педагагічных ВНУ, навучэнцаў педагагічных вучылішчаў, выкладчыкаў, а таксама шырокага кола чытачоў.





# УСТУП

Пераход усіх педагагічных навучальных устаноў Беларусі на нацыянальную мову выкладання патрабуе ад выкладчыкаў і навучэнцаў не толькі добрага ведання беларускіх эквівалентаў рускіх тэрмінаў, слоў, словазлучэнняў, што ахопліваюць кола пытанняў, звязаных з адукацыяй, навучаннем і выхаваннем, а і ўмення тлумачыць іх на беларускай мове.

Аўтары дапаможніка даюць тлумачэнні найбольш распаўсюджаных тэрмінаў і катэгорый, з якімі сустракаюцца выкладчыкі і студэнты пры вывучэнні педагагічных дысцыплін.

Слоўнік прызначаны для студэнтаў педагагічных ВНУ, навучэнцаў педагагічных вучылішчаў, выкладчыкаў, настаўнікаў, вучняў, а таксама шырокага кола чытачоў.

У слоўніку ў алфавітным парадку змешчана больш за 400 тэрмінаў па розных галінах педагагічных ведаў (дыдактыцы, тэорыі выхавання, гісторыі педагогікі).

Пры складанні дапаможніка былі выкарыстаны "Педагогический словарь" (М., 1960); "Педагогическая энциклопедия" (М., 1965); А. М. Булыка, "Слоўнік іншамоўных слоў" (Мн., 1993); "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Мн., 1977).

Падрыхтаваны кароткі тлумачальны слоўнік з'яўляецца першай спробай стварэння слоўнікаў такога тыпу па педагогіцы. Таму складальнікі з удзячнасцю прымуць усе заўвагі і пажаданні чытачоў, што дазволіць палепшыць якасць слоўніка пры яго магчымым перавыданні.

# А

**Абавязковае навучанне** — такая арганізацыя сістэмы народнай адукацыі, пры якой ў заканадаўчым парадку прадугледжана абавязковае атрыманне ўсімі дзецьмі пэўнага ўзросту агульнай адукацыі ва ўстаноўленым аб'ёме — пачатковай, няпоўнай сярэдняй або сярэдняй. У Беларусі абавязковай з'яўляецца няпоўная сярэдняя адукацыя — дзевяцігадовая.

**Абагульненне** — адзін з працэсаў пазнання, які заключаецца ва ўяўным выдзяленні і аб'яднанні агульных істотных рыс прадметаў і з'яў рэчаіснасці. Пад абагульненнем таксама разумеюцца вынікі гэтага працэсу.

**Абзац** (ням. *absatz* — уступ) — 1) адступленне ўправа ў пачатку першага радка якога-небудзь тэксту; чырвоны радок. 2) Частка тэксту ад аднаго чырвонага радка да наступнага.

**Абітурыент** (лац. *abituriens* — гатовы пайсці, пакінуць) — асоба, якая канчае сярэднюю навучальную ўстанову, а таксама выпускнік, які паступае ў вышэйшую або сярэднюю спецыяльную ўстанову.

**Абсалютны слых** — прыроджаная здольнасць дакладна вызначаць на слых абсалютную вышыню музычных гукаў без суаднясення іх з іншымі гукамі, вышыня якіх вядома. Здольнасцю вызначэння абсалютнай вышыні музычных гукаў валодаюць параўнальна нямногія. Абсалютны слых не трэба атаясамліваць з добрым музычным слыхам.

**Абстрагаванне ў вучэбнай працы** (лац. *abstractio* — аддаленне, адцягненне) — мысленнае аддзяленне неістотных уласцівасцяў, якасцяў, сувязяў прадмета ці з'явы з мэтай выдзеліць найбольш істотныя, заканамерныя прыкметы і сувязі.

**Агульнаадукацыйная школа** — дзяржаўная, грамадская ці прыватная школа, якая дае агульную адукацыю. У Беларусі агульнаадукацыйная школа з'яўляецца дзяржаўнай.

**Адаптацыя** (лац. *adaptatio* — прыстасаванне) — прыстасаванне арганізмаў або органаў пачуццяў да навакольных умоў.

**Адзіныя педагагічныя патрабаванні** — 1) агульная лінія ў вучэбна-выхаваўчай працы, якая выпрацавана педагагічным калектывам. 2) Адзінства патрабаванняў да дзіцяці ў сям'і. 3) Узгодненасць дзеянняў школы, дашкольных і пазашкольных устаноў, сям'і і грамадскасці ў выхаванні дзяцей.



**Адкрыты ўрок** — урок, на якім прысутнічаюць іншыя настаўнікі і запрошаныя асобы. А. у. праводзяцца кваліфікаванымі настаўнікамі па складаных і слаба распрацаваных у методыцы раздзелах вучэбнай праграмы з мэтай паказу найбольш эфектыўных прыёмаў вучэбна-выхаваўчай працы. Такія ўрокі садзейнічаюць укараненню дасягненняў педагагічнай навукі ў практыку, распаўсюджванню перадавога педагагічнага вопыту, павышэнню кваліфікацыі настаўнікаў.

**Адміністрацыя школы** (лац. *administratio* — кіраванне) — кіруючы персанал школы.

**Адаронасць** — высокі ўзровень развіцця здольнасцяў чалавека, які дазваляе яму дасягнуць выключных поспехаў у пэўных галінах дзейнасці. Вылучаюць *агульную* і *спецыяльную* адаронасць.

**Адароныя дзеці** — дзеці, у якіх рана праяўляюцца здольнасці і схільнасці да таго ці іншага віду дзейнасці.

**Адраджэнне** — умоўная назва эпохі культурнага і ідэалагічнага развіцця шэрагу краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы (у Італіі — 14-16 стст., а ў іншых краінах — канец 15-16 стст.), якой характэрны высокі ўздым у галіне навукі, літаратуры і мастацтва, абумоўлены зараджэннем капіталістычнага спосабу вытворчасці.

**Адчувальнасць** — уласцівасць жывога арганізма рэагаваць на ўздзеянні знешняга або ўнутранага асяроддзя.

**Адчуванне** — псіхічны працэс успрымання асобных уласцівасцяў прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці пры іх непасрэдным уздзеянні на органы пачуццяў.

**Ад'юнкт** (лац. *adiunctus* — прылічаны) — 1) аспірант у вышэйшых ваенна-навучальных установах. 2) Памочнік прафесара ў навуковых установах дарэвалюцыйнай Расіі і Заходняй Еўропы.

**Азбука** (ад назвы двух першых славянскіх літар: "*аз*" і "*букі*") — сукупнасць літар якой-небудзь пісьменнасці, размешчаных у пэўным парадку; алфавіт. Азбукамі таксама называліся вучэбныя дапаможнікі для пачатковага навучання грамаце; буквар.

**Адукацыя** (лац. *educatio*) — працэс і вынік засваення сістэматызаваных ведаў, уменняў і навыкаў. Асноўны шлях атрымання адукацыі — навучанне ў сістэме розных навучальных устаноў. Істотную

ролю ў засваенні ведаў, разумовым развіцці чалавека займае таксама самаадукацыя. У залежнасці ад характару падрыхтоўкі да жыцця і працы выдзяляюць *агульную* і *спецыяльную* адукацыю. *Агульная адукацыя* (пачатковая, сярэдняя) мае сваёй мэтай даць веды, уменні і навыкі, неабходныя кожнаму чалавеку незалежна ад яго будучай прафесіі. *Спецыяльная адукацыя* дае веды, уменні і навыкі, неабходныя працаўніку пэўнай прафесіі і пэўнага ўзроўню кваліфікацыі.

**Акадэмік** (лац. *academicus* — акадэмічны) — вышэйшае вучонае званне, якое прысвойваецца буйнейшым навукоўцам, а таксама асоба, якая мае гэта званне.

**Акадэмічны год** — час ад пачатку заняткаў у вышэйшых навучальных установах да іх заканчэння. Назва *акадэмічны год* выкарыстоўваецца ў некаторых замежных краінах і адпавядае тэрміну навучальны год, прынятаму ў Беларусі для ўсіх навучальных устаноў.

**Акадэмія** (лац. *academia* — мясцовасць каля Афін, дзе ў IV ст. да н. э. была заснавана Платонам філасофская школа. Першапачаткова — назва міфічнага героя Акадэма) — вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова, а таксама назва некаторых вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльных галінах навукі.

**Акампанемент** (фр. *accompagnement*) — 1) музычнае суправаджэнне спеваў, дэкламацыі або ігры на інструменце. 2) Падзеі, з'явы, якія ствараюць гукавы фон чаму-небудзь.

**Акампаніятар** (фр. *accompagnateur*) — той, хто акампаніруе, выконвае партыю акампанементу.

**Акселерацыя** (лац. *acceleratio* — паскарэнне) — паскоранае фарміраванне арганізма.

**Актывізацыя працэсу навучання** — удасканальванне метадаў і арганізацыйных формаў вучэбнай працы, якое забяспечвае актыўную тэарэтычную і практычную дзейнасць школьнікаў ва ўсіх звеннях навучальнага працэсу.

**Актывіст** (лац. *activus* — дзейны) — актыўны, дзейны, энергічны член якога-небудзь калектыву.

**Актыў вучнёўскі** (лац. *activus* — дзейны) — найбольш дзейная, ініцыятыўная частка школьнікаў, якой належыць вядучая роля ў жыцці і дзейнасці калектыву класа, школы.



**Актыўнасць вучняў у навучанні** (лац. *activus* — дзейны) — дыдактычны прынцып, што патрабуе ад настаўніка такой арганізацыі навучальнага працэсу, якая садзейнічае выхаванню ў вучняў ініцыятывы і самастойнасці, трываламу і глыбокаму засваенню ўменняў і навыкаў, развіццю ў іх назіральнасці, мыслення і мовы, памяці і творчага ўяўлення.

**Алігафрэнапедагогіка** (грэч. *oligos* — малы + *phren* — розум + *paidogogike* — навука аб выхаванні) — навука аб выхаванні, навучанні і шляхах карэкцыі недахопаў развіцця разумова адсталых дзяцей. Алігафрэнапедагогіка з'яўляецца галіной дэфекталогіі.

**Алігафрэнія** (грэч. *oligos* — малы + *phren* — розум) — розныя формы прыроджанага ці набытага ў раннім дзяцінстве псіхічнага недаразвіцця.

**Алімпіяда** (грэч. *olympias, ados*) — спаборніцтвы вучняў у той ці іншай галіне, па таму ці іншаму прадмету.

**Алфавіт** (грэч. *alpha* — альфа + *beta* — віта — назвы першых дзвюх літар грэчаскага алфавіта) — сукупнасць літар якой-небудзь пісьменнасці, размешчаных у пэўным парадку, азбука.

**Альбом вучэбны** (грэч. *album*) — тэматычны збор рэпрадукцый, фотакартак, чарцяжоў, вучэбных табліц, выдадзеных у выглядзе кнігі або складзеных у папку, часта з тлумачальным тэкстам.

**Амбіцыя** (лац. *ambitio*) — абвостранае самалюбства, празмернае пачуццё асабістай годнасці.

**Аналіз** (грэч. *analysis* — раскладанне) — расчляненне прадмета ці з'явы, якія вывучаюцца, на характэрныя для іх састаўныя элементы, выдзяленне іх асобных бакоў, вывучэнне кожнага элемента прадмета або з'явы як часткі адзінага цэлага.

**Аналіз урока** — разбор і ацэнка вучэбных заняткаў у цэлым і асобных іх бакоў; адзін з відаў метадычнай працы ў школе.

**Аналізатар** — складаны нервовы механізм для ўспрымання і найтанчэйшага аналізу ўсіх раздражненняў, якія аказваюць уздзеянне на чалавека ці вышэйшых жывёл са знешняга і ўнутранага асяроддзя.

**Аналогія** (грэч. *analogia* — падабенства) — падабенства ў пэўных адносінах з'яў, паняццяў, прадметаў, якія ў цэлым розняцца паміж сабой.

**Анамалія** (грэч. *anomalia* — **няроўнасць**) — адхіленне ад нармальнага, агульнапрынятага; ненармальнасць.

**Анамальныя дзеці** — дзеці з адхіленнямі ад нармальнага фізічнага ці псіхічнага развіцця, якія патрабуюць выхавання і навучання ў спецыяльных умовах. У аснове гэтых адхіленняў могуць быць прыроджаныя або набытыя анамаліі (дэфекты). Лац. *defectus* — *недахоп*, адсюль тэрмін "дэфектныя дзеці". Асноўныя катэгорыі дэфектаў у анамальных дзяцей: парушэнні слыху, зроку, мовы, разумовая адсталасць.

**Анатама-фізіялагічныя асаблівасці дзяцей** — узроставыя асаблівасці будовы і функцый арганізма ў цэлым і асобных сістэм і органаў. Веданне і ўлік гэтых асаблівасцяў неабходны для правільнай арганізацыі вучэбна-выхаваўчай працы з дзецьмі рознага ўзросту, прычым не толькі з мэтай іх фізічнага выхавання, але і разумовага развіцця.

**Анатацыя** (лац. *annotatio* — **заўвага**) — кароткі выклад зместу кнігі, артыкула з агульнай *іх* характарыстыкай.

**Анкета** (франц. **enquete**) — апытальны ліст для атрымання якіх-небудзь звестак аб тым, хто яго *запаўняе*, або адказаў на пытанні, складзеныя па пэўнай праграме.

**Анкетны метад** — пісьмовае, радзей вуснае апытанне значнай колькасці асоб па вызначанай схеме (анкеце ці апытальнаму лісту), мэтай якога з'яўляецца збор і статыстычная апрацоўка матэрыялу, неабходнага для вырашэння педагагічных задач.

**Антрапалогія** (*грэч.* *anthropos* — **чалавек** + *logos* — **вучэнне**) — навука аб паходжанні, эвалюцыі чалавека і ўтварэнні чалавечых рас.

**Антрапалогія педагагічная** — сістэма педагагічных поглядаў, заснаваная на звестках навук, якія вывучаюць чалавека.

**Антыпатыя** (грэч. *antipatheia*) — пачуццё непрыязнасці, недружалюбнасці, агіды.

**Антычная педагогіка** — педагагічныя погляды і практыка выхавання ў старажытных грэкаў і рымлян, якія склаліся ва ўмовах рабаўладальніцкага ладу.

**Апанент** (лац. *apponens* — *які* **пярэчыць**) — 1) той, хто выступае на публічным дыспуце, у публічнай спрэчцы з абвяржэннем чыіх-небудзь доказаў, палажэнняў. 2) Той, каму даручана ацэнка дысертацыі і выступленне на яе публічнай абароне.



**Апатыя** (грэч. *apatheia*) — стан душэўнай абыякавасці, раўнадушша, вяласці.

**Апергэнцыя** (лац. *ad* — **пры** + *perceptio* — **успрыняцце**) — залежнасць успрыняцця ад папярэдняга індывідуальнага вопыту, ранейшых уяўленняў і запасу ведаў.

**Апергэнцыя ў навучанні** — выкарыстанне залежнасці ўспрыняцця ад папярэдняга вопыту, ранейшых уяўленняў і ведаў для больш дакладнага і глыбокага засваення новага матэрыялу.

**Аплікацыя** (лац. *applicatio* — **прыкладванне, наклейванне**) — 1) спосаб стварэння малюнка, мастацкага ўзору, арнаменту шляхам наклейвання або прышывання кавалачкаў рознакаляровай матэрыі, паперы і інш. 2) Узор, малюнак, арнамент, створаныя такім чынам.

**Апрабацыя** (лац. *approbatio*) — афіцыйнае адабрэнне, вынесенае на падставе выпрабавання, праверкі, шырокага абмеркавання.

**Аптымізацыя** (лац. *optimus* — **найлепшы**) — выбар найлепшага варыянта з некалькіх магчымых.

**Аптымізацыя навучання** — навукова абгрунтаваны выбар і ажыццяўленне найлепшага для пэўных умоў варыянта навучання з мэтай паспяховага вырашэння яго задач і рацыянальнага выкарыстання часу вучняў і настаўнікаў.

**Аптымізм** (лац. *optimus* — **найлепшы**) — бадзёры, жыццярадасны настрой, пры якім чалавек верыць у лепшае будучае, у поспех; схільнасць бачыць ва ўсім светлыя бакі.

**Апытанне навучэнцаў** — вусная форма кантролю і праверкі ведаў навучэнцаў, замацаванне пройдзенага матэрыялу і падрыхтоўка да ўспрымання новых ведаў.

**Арганізатар** (франц. *organisateur*) — 1) той, хто арганізоўвае што-небудзь, з'яўляецца ініцыятарам чаго-небудзь. 2) Той, хто мае здольнасці да арганізацыйнай працы.

**Аркуш** (лац. *arcus* — **дуга**) — 1) стандартны ліст паперы, кардону, фанеры, бляхі. 2) Адзінка вымярэння аб'ёму кнігі, роўная шас-

націаці старонкам друкаванага праз 2 інтэрвалы тэксту (па 65 знакаў у радку).

**Арніталогія** (грэч. *ornis* — птушка + *logos* — вывучэнне) — раздзел заалогіі, які вывучае птушак.

**Артыкул** (лац. *articulus*) — 1) навуковы або публіцыстычны твор невялікага памеру ў часопісе, зборніку, газеце. 2) Раздзел, параграф у афіцыйным дакуменце.

**Артыкуляцыя** (лац. *articulatio*) — работа органаў маўлення (губ, языка, мяккага нёба, галасавых звязак) пры вымаўленні гукаў.

**Арфаграфія** (грэч. *orthos* — правільны + *grapho* — пішу) — правапіс, заканадаўча ўстаноўленыя правілы пісьма.

**Археалогія** (грэч. *archaiologia* — апавяданне пра даўніну) — навука, якая вывучае быт і культуру даўніх часоў па знойдзеных шляхам раскопак рэчавых помніках.

**Архірэйскія школы** (грэч. *archireus*) — навучальныя ўстановы, якія ствараліся ў Расіі пры архірэйскіх дамах пераважна для дзяцей духавенства.

**Арыфметыка** (грэч. *arithmetike*) — раздзел матэматыкі, які вывучае прасцейшыя ўласцівасці лікаў і дзеянні над імі.

**Асацыяцыя** (лац. *associatio* — злучэнне) — сувязь ідэй, уяўленняў, пры якой адно выклікае ў свядомасці другое дзякуючы іх падабенству, сумежнасці або процілегласці.

**Асвета** — навучанне, адукацыя.

**Асветнік** — той, хто пашырае веды, асвету.

**Асістэнт** (лац. *assistens* — прысутны, памагаты) — 1) асоба, якая дапамагае спецыялісту пры выкананні асноўнай працы, напр., памочнік прафесара ў час чытання лекцыі; памочнік урача пры аперацыі. 2) Асоба, якая займае малодшую выкладчыцкую пасаду ў ВНУ.

**Асновы навук ў школе** — важнейшыя факты, паняцці, законы, тэорыі, метады навук, выбраныя для вывучэння ў адпаведнасці з патрабаваннямі грамадства і ўзроставымі асаблівасцямі навучэнцаў. *Асновы навук* складаюць змест школьных вучэбных прадметаў.



**Асоба** — чалавек як грамадскі індывідуум, суб'ект пераўтварэння свету, разумная істота, якая валодае мовай і здольнасцю да працоўнай дзейнасці.

**Аспірант** (лац. *aspirans*, *-ntis* — які дамагаецца, імкнецца, шукае) — асоба, якая рыхтуецца да навуковай дзейнасці пры навукова-даследчым інстытуце або ВНУ.

**Аспірантура** — асноўная форма падрыхтоўкі навукова-педагагічных і навуковых кадраў для ВНУ, навукова-даследчых інстытутаў.

**Астраномія ў школе** (грэч. *astronomia*) — вучэбны прадмет, зместам якога з'яўляюцца навуковыя веды аб будове, руху і хімічным саставе нябесных свяціл.

**Атлас вучэбны** (гр. *Atlas*, *-antos* — імя міфічнага героя Атланта) — сістэматызаваны зборнік геаграфічных, гістарычных ці іншых карт з тлумачэннямі, а таксама малюнкаў, чарцяжоў, табліц.

**Атэстат** (лац. *attestari* — сведчанне) — афіцыйны дакумент аб заканчэнні навучальнай установы, прысваенні вучонага звання і інш.

**Атэстат аб сярэдняй адукацыі** — афіцыйны дакумент аб заканчэнні сярэдняй школы, уведзены пастановамі Саветаў Міністраў саюзных рэспублік у 1962 годзе.

**Атэстат сталасці** — пасведчанне аб заканчэнні сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. У Расіі ўведзены ў 1872 годзе ў мужчынскіх класічных гімназіях.

**Аўдыторыя** (лац. *auditorium*) — 1) памяшканне, прызначанае для чытання лекцый, дакладаў. 2) Слухачы лекцыі, даклада.

**Аўтарэферат** — рэферат твора (звычайна навуковага), напісаны самім аўтарам.

**Аўтарытарнае выхаванне** (лац. *autoritaire* — улада) — выхаванне, мэта і асноўны матыў якога заснаваны на безагаворачным падпарадкаванні выхаванцаў уладзе, аўтарытэту выхавальніка.

**Аўтарытэт бацькоўскі** (лац. *auctoritas* — уплыў) — уплыў бацькі і маці на дзяцей, заснаваны на павазе і любові да бацькоў, даверы іх жыццёваму вопыту, словам і ўчынкам.

**Аўтарытэт настаўніка** (лац. *auctoritas* — уплыў) — уплыў настаўніка на вучняў, заснаваны на прафесіянальных якасцях (любоў да дзяцей, эрудыцыя, педагагічнае майстэрства, справядлівасць і г. д.).

**Афарызм** (грэч. *aphorismos*) — кароткае, выразнае па форме і глыбокае на зместу выслоўе павучальнага характару.

**Афект** (лац. *affectus* — душэўнае хваляванне, страсць) — стан моцнага нервовага ўзрушэння і запальчывасці.

√ **Афінскае выхаванне** — сістэма выхавання дзяцей вольных грамадзян у Афінскай дзяржаве VI—IV стст. да н. э. у разумовых, маральных і фізічных адносінах.

**Ацэнка паспяховасці** — вызначэнне ступені засваення навучэнцамі ведаў, уменняў і навыкаў у адпаведнасці з патрабаваннямі, прадугледжанымі школьнымі праграмамі. Ацэнка паспяховасці ажыццяўляецца ў працэсе паўсядзённага вызначэння настаўнікам вынікаў вучэбнай працы навучэнцаў на ўроках і дома, а таксама па выніках спецыяльнай праверкі ведаў, уменняў і навыкаў: вуснай, пісьмовай ці практычнай. Як правіла, ацэнка паспяховасці школьніка вызначаецца ў балах, а таксама ў форме ацэначных меркаванняў. У школах Беларусі, як і ў школах многіх замежных краін, прынята пяцібальная сістэма ацэнкі паспяховасці.

# Б

**Базавая школа** — агульнаадукацыйная школа, замацаваная за педагагічнымі навучальнымі ўстановамі ці навукова-даследчымі інстытутамі педагогікі для правядзення практыкі студэнтамі ці для арганізацыі навукова-даследчых, эксперыментальных работ па пытаннях выхавання і навучання.

**Байка** — кароткі літаратурны твор алегарычнага зместу з павучальнай канцоўкай.

**Бакалаўр** (с.-лац. *baccalaureus*) — першая вучоная ступень у сярэдневяковых універсітэтах Еўропы. У канцы XVIII ст. гэту ступень атрымлівалі выпускнікі настаўніцкага ін-та пры Маскоўскім ун-це. У цяперашні час *ступень бакалаўра* прысуджаецца ў некаторых заходніх краінах (Англія, ЗША і інш.) пасля 3-4 гадоў навучання ў ВНУ. У Францыі і некаторых іншых краінах — асоба, якая скончыла сярэднюю школу.



**Бал** (франц. *balle* — шар) — лікавая ацэнка поспехаў у навучальных установах. У розных краінах выкарыстоўваюцца розныя сістэмы: пяцібальная, дзесяцібальная, адзінаццацібальная. У адных краінах лепшым балам лічыцца 1 (напр., Германія), у іншых, наадварот, 1 — найгоршы бал (Беларусь, Венгрыя і інш.).

**Батавія-план** — сістэма арганізацыі вучэбнай працы ў школе, пры якой для класных заняткаў выкарыстоўваецца толькі палова вучэбнага часу. Другая палова прысвячаецца індывідуальным заняткам вучняў пад кіраўніцтвам і пры дапамозе настаўніка. Атрымаў назву ад г. Батавія (штат Нью-Йорк, ЗША), дзе Б.-п. упершыню атрымаў прызнанне.

**Батаніка** (грэч. *botanike* — навука аб раслінах) — 1) навука, якая вывучае раслінны свет. 2) Частка вучэбнага прадмета біялогіі, зместам якога з`яўляюцца асновы навуковых ведаў аб будове і асноўных заканамернасцях жыцця і развіцця раслінных арганізмаў.

**Бацькі** — бацька і маці ў адносінах да сваіх дзяцей.

**Бацькоўскі камітэт школы** — орган бацькоўскай грамадскасці, мэтай якога з`яўляецца забеспячэнне пастаяннай і цеснай сувязі школы з бацькамі навучэнцаў.

**Бацькоўскі сход** — адна з асноўных формаў сувязі школы з сем`ямі навучэнцаў і прапаганды педагагічных ведаў сярод бацькоў. У практыцы школ існуюць два асноўныя віды бацькоўскіх сходаў —агульнашкольныя і класныя.

**Бездагляднасць дзіцячая** — адсутнасць у дзяцей і падлеткаў пастаяннага месца жыхарства, пэўных заняткаў, сямейнай ці дзяржаўнай апекі і сістэматычнага выхаваўчага ўздзеяння ў выніку страты бацькоў, уцёку з сям`і ці выхаваўчай установы і інш. прычын.

**Безумоўны рэфлекс** — прыроджаны рэфлекс, у аснове якога знаходзіцца спадчынна фіксаваная рэакцыя арганізма ў адказ на якоенебудзь уздзеянне знешняга асяроддзя праз нервовую сістэму па вызначаных (прыроджаных) анатамічных шляхах. Да Б. Р. адносіцца, напрыклад, выдзяленне слюны ў час яды.

**Беларуская мова ў школе** — вучэбны прадмет, выкладанне якога мае мэтай даць школьнікам асноўныя звесткі аб сучаснай літаратурнай мове, яе важнейшых фанетычных асаблівасцях, слоўнікавым складзе і граматычным ладзе, выпрацаваць уменні і навыкі, неабходныя для свабоднага карыстання мовай.

**Бел-ланкастэрская сістэма ўзаемнага навучання** — сістэма арганізацыі і метадаў навучання ў пачатковай школе, пры якой старэйшыя і больш паспяваючыя вучні з`яўляліся памочнікамі настаўніка і пад яго кіраўніцтвам вялі заняткі з астатнімі вучнямі. Сваю назву атрымала па прозвішчах англ. педагогаў Л. Бела і Д. Ланкастэра, якія незалежна адзін ад другога прапанавалі падобны метад навучання.

**Бессаслоўнасць школы** — прагрэсіўны прынцып арганізацыі школьнай справы, сфармуляваны перадавымі прадстаўнікамі буржуазіі ў XVIII ст. Ён патрабаваў арганізацыі адзінага тыпу дзяржаўных школ, юрыдычна даступных усім грамадзянам незалежна ад іх саслоўя.

**Бібліяграфія** (гр. *biblion* — кніга + *grapho* — пішу) — 1) у першапачатковым значэнні — кнігапісанне. 2) Навуковае сістэматызаванае апісанне кніг і іншых выданняў, зробленае па якой-небудзь прымеце. 3) Спіс літаратуры па пэўнаму прадмету, пытанню.

**Бібліятэка** (грэч. *bibliotheke*) — 1) установа, якая збірае, захоўвае і выдае кнігі чытачам. 2) Набор кніг, прызначаных для пэўнай групы чытачоў. 3) Набор кніг, якія знаходзяцца ў чыім-небудзь карыстанні.

**Білет студэнцкі** (франц. *billet*) — дакумент, які сведчыць пра адносіны яго ўладальніка да навучальнай установы.

**Білет экзаменацыйны** — (франц. *billet*) — картка з пытаннямі на экзаменах.

**Біяграфія** (грэч. *bios* — жыццё + *grapho* — пішу) — апісанне жыцця і дзейнасці каго-небудзь.

**Біялогія** (гр. *bios* — жыццё + *logos* — вучэнне) — вучэбны прадмет, у змест якога ўваходзяць асновы навук аб жывой прыродзе — батанікі, заалогіі, анатоміі і фізіялогіі чалавека, агульнай біялогіі.

**Блізарукасць** — недахоп зроку, пры якім вочы дрэнна бачаць аддаленыя прадметы.

**Брацкія школы** — школы, якія адкрываліся і ўтрымліваліся рэлігійнымі, дабрачыннымі і іншымі арганізацыямі і брацтвамі. Існавалі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў XV-XVIII стст. Найбольшую вядомасць атрымалі брацкія школы ў Чэхіі, а таксама на Украіне, Беларусі (якія ў XVI-XVII стст. уваходзілі ў склад Польска-Літоўскай дзяржавы). Брацтвы Украіны і Беларусі вялі напружаную барацьбу супраць апалячвання і акаталічвання украінцаў і беларусаў. Брацкія школы з`яўляліся адным са сродкаў барацьбы за нацыянальную незалежнасць.



**Брыгадна-лабараторны метад** — адна з арганізацыйных формаў вучэбных заняткаў у агульнаадукацыйных школах, тэхнікумах і ВНУ. Выкарыстоўвалася ў 20-х, пачатку 30-х гг. XX ст. у СССР.

**Буквар** — вучэбны дапаможнік для першапачатковага навучання грамаце.

**Бясплатнасць навучання** — адзін з асноўных прынцыпаў арганізацыі народнай адукацыі.

## В

**Важаты атрада піянераў** — кіраўнік піянерскага атрада і член яго савета, арганізатар самадзейнасці піянераў у розных відах грамадска-карыснай працы, тэхнічнай і мастацкай творчасці, спорце, турызме.

**Веды** — сукупнасць звестак аб прадметах і з`явах рэчаіснасці, законах прыроды і грамадства. Веды не з`яўляюцца нязменнымі. Яны пастаянна развіваюцца, удакладняюцца, паглыбляюцца, а часам істотна змяняюцца.

**Віктарына** — пазнавальная гульня, якая складаецца з пытанняў і адказаў на тэмы з розных галін навукі, тэхнікі, літаратуры і мастацтва. Выхаваўчая і адукацыйная каштоўнасць віктарын у тым, што яны развіваюць знаходлівасць і актыўнасць вучняў, пашыраюць іх кругагляд, садзейнічаюць разумоваму выхаванню, развіццю пазнавальных інтарэсаў, дапамагаюць выявіць веды вучняў.

**Вопыт педагагічны** — сукупнасць ведаў, уменняў і навыкаў, набытых настаўнікам у працэсе практычнай навучальна-выхаваўчай працы. Педагагічны вопыт з`яўляецца асновай педагагічнага майстэрства настаўніка і важнейшай крыніцай развіцця педагагічнай навукі.

**Вучань** — навучэнец пачатковай або сярэдняй навучальнай установы.

**Вучылішча** — сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова.

**Выдатнік** — навучэнец, які мае выдатныя адзнакі па ўсіх прадметах вучэбнага плана.

**Выкладчык** — у шырокім сэнсе слова — той, хто выкладае які-небудзь прадмет у вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе або агульнаадукацыйнай школе. У вузкім сэнсе слова — штатная пасада ў ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

**Выпускнік** — той, хто заканчвае навучальную ўстанову, навучэнец апошняга класа, курса.

**Выхавальнік** — у шырокім сэнсе слова — асоба, якая ажыццяўляе выхаванне; у вузкім значэнні — службовая асоба, якая займаецца выхаваннем дзяцей і моладзі ў вучэбна-выхаваўчых установах. Гістарычна пасада выхавальніка з`явілася ў антычных рабаўладальніцкіх дзяржавах.

**Выхаванец** — чалавек (у вучэбна-выхаваўчай установе — дзіця, падлетак, дзяўчына ці юнак), які з`яўляецца аб`ектам выхаваўчага ўздзеяння. *Выхаванец* — не пасіўны аб`ект выхавання. Яму належыць актыўная роля ў фарміраванні сваіх асабістых якасцяў.

**Выхаванне** — працэс перадачы грамадска-гістарычнага вопыту ад старэйшых пакаленняў да малодшых. У сучаснай педагагічнай літаратуры паняцце *выхаванне* выкарыстоўваецца ў шырокім і вузкім сэнсе. *У шырокім сэнсе* яно ўключае ў сябе ўсю суму ўздзеянняў, увесь працэс фарміравання асобы. У такім разуменні выхаванне ўключае таксама адукацыю і навучанне. *У вузкім сэнсе* пад выхаваннем разумеецца спецыяльная выхаваўчая праца, накіраваная на фарміраванне сістэмы пэўных якасцяў, пачуццяў і перакананняў. У такім разуменні выхаванне не ўключае ў сябе адукацыю і навучанне.

**Выхаваўчае навучанне** — навучанне, пры якім дасягаецца арганічная сувязь паміж набыццём вучнямі ведаў, уменняў, навыкаў і фарміраваннем іх асобы. Выхаваўчае навучанне — дыдактычны прынцып, які знаходзіць сваё адлюстраванне ў змесце, арганізацыйных формах і метадах навучання.

**Вышэйшая адукацыя** — падрыхтоўка спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі для розных галін навукі, тэхнікі, культуры. Пад тэрмінам *вышэйшая адукацыя* разумеюць таксама сукупнасць ведаў і практычных навыкаў, якія дазваляюць тым, хто атрымаў вышэйшую адукацыю, вырашаць тэарэтычныя і практычныя задачы па свайму профілю падрыхтоўкі.

**Вышэйшая нервовая дзейнасць** — дзейнасць галаўнога мозга (вялікіх паўшар`яў з бліжэйшай падкоркай), якая забяспечвае нармальныя складаныя адносіны арганізма з навакольным светам. Біялагічнае значэнне яе заключаецца ў прыстасаванні арганізма да зменлівых умоў навакольнага асяроддзя.



**Вышэйшыя навучальныя ўстановы** — вучэбныя ўстановы, якія ажыццяўляюць падрыхтоўку спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі для розных галін народнай гаспадаркі, навукі і культуры, а таксама навукова-педагагічных кадраў праз аспірантуру. Да ВНУ адносяцца універсітэты, інстытуты, акадэміі.

**Выяўленчае мастацтва** — 1) адзін з відаў мастацкага выхавання дзяцей сродкамі жывапісу, графікі, скульптуры. 2) Вучэбны прадмет у 1 — 8 класах агульнаадукацыйнай школы.

**Вячэрняе навучанне** — адна з формаў навучання моладзі і дарослых без адрыву ад працоўнай дзейнасці. У Беларусі вячэрняе навучанне з`яўляецца арганічнай часткай агульнай сістэмы народнай асветы і дазваляе ўсім (ад 16 гадоў і старэйшым) атрымліваць як агульную сярэднюю, так і спецыяльную сярэднюю і вышэйшую адукацыю.

## Г

**Гарадскія школы** — сярэдневяковыя пачатковыя школы ў гарадах Заходняй Еўропы. Стварыліся пры зліцці гільдыйскіх школ з цэхавымі школамі. Утрымліваліся ўстановамі гарадскога самакіравання — магістратамі.

**Гарманічнае развіццё** — суразмернае развіццё фізічных і духоўных сіл чалавека, стройнае і строгае спалучэнне розных бакоў і функцый яго свядомасці, паводзін і дзейнасці.

**Геаграфія ў школе** (грэч. *geographia* — землеапісанне) — вучэбны прадмет, які выкладаецца ў школе з мэтай даць вучням веды асноў фізічнай і эканамічнай геаграфіі. Фізічная геаграфія даследуе ландшафтную абалонку зямнога шара, якая складаецца з зямной кары, ніжняй часткі атмасферы, водаў, глебавага покрыва, раслiннасці і жывёльнага свету. Эканамічная геаграфія вывучае размяшчэнне насельніцтва і грамадскай вытворчасці, умовы і асаблівасці развіцця вытворчасці ў розных краінах і раёнах.

**Геаметрыя ў школе** (грэч. *geometria* — мeранне зямлі) — вучэбны прадмет аб прасторавых формах і законах іх вымярэння. З`яўляецца раздзелам матэматыкі.

**Гербарый** (лац. *herbarium* — травяны) — калекцыя засушаных і размешчаных у пэўнай сістэме раслін.

**Гігіена** (гр. *hygienos* — здаровы; лекавы) — галіна медыцыны, якая вывучае ўплыў умоў жыцця і працы на здароўе чалавека і распрацоўвае меры прафілактыкі захворванняў.

**Гігіена дзяцей і падлеткаў** (школьная гігіена) — навука аб мерах і сродках аховы і ўмацавання здароўя і павышэння працаздольнасці дзяцей і падлеткаў.

**Гільдыйскія школы** — пачатковыя школы, якія адкрываліся ў гарадах Заходняй Еўропы ў XIII-XIV стст. аб`яднаннямі купцоў — гільдыямі. Прычынай з`яўлення гільдыйскіх школ паслужыла незадаволенасць купцоў існуючымі царкоўнымі школамі, дзе галоўная ўвага ўдзялялася выкладанню веравучэння і царкоўным спевам. У гільдыйскіх школах галоўная ўвага звярталася на навучанне чытанню, пісьму, лічэнню.

**Гімназія** (грэч. *gymnasion*) — агульнаадукацыйная сярэдняя навучальная ўстанова ў дарэвалюцыйнай Расіі і некаторых сучасных краінах (у апошнія гады адкрываюцца ў Беларусі).

**Гімнасія** — дзяржаўная навучальна-выхаваўчая ўстанова ў Старажытнай Грэцыі. Дакладны час узнікнення не ўстаноўлены. У Афінах найбольшага росквіту *гімнасіі* дасягнулі ў VI-IV стст. да н. э.

**Гімнастыка** (грэч. *gymnastike*) — сістэма спецыяльна падабраных фізічных практыкаванняў і метадычных прыёмаў, якія выкарыстоўваюцца з мэтай умацавання здароўя і ўсебаковага фізічнага развіцця чалавека, фарміравання жыццёва неабходных рухальных навыкаў, выхавання сілы, спрыту, гнуткасці, а таксама павышэння спартыўнага майстэрства.

**Гіпотэза** (грэч. *hypothesis* — меркаванне) — навуковае меркаванне, пэўнасць якога яшчэ не даказана доследным шляхам.

**Гісторыя педагогікі** — навука, якая вывучае развіццё тэорыі і практыкі выхавання, адукацыі і навучання ў розныя гістарычныя эпохі. Гісторыя педагогікі адначасова з`яўляецца і педагагічнай і гістарычнай навукай.

**Гісторыя ў школе** (грэч. *historia*) — вучэбны прадмет, які знаёміць навучэнцаў з працэсам развіцця чалавечага грамадства, падводзіць іх да разумення гістарычных заканамернасцяў.



**Глобус** (лац. *globus* — шар) — зменшаная ў мільёны разоў мадэль зямнога шара або нябеснай сферы, умацаваная на вертыкальнай падстаўцы.

**Голас** — гукі, што ўзнікаюць пры размове, крыку або спевах дзякуючы хістанню галасавых звязак. Служыць для выражэння думак, пачуццяў і адчуванняў (мова, спевы, плач) ці з`яўляецца вынікам рэфлекторных рухаў мышцаў гартані (крык, чыханне, кашаль і г. д.).

**Грамадска-карысная праца** — разнастайная працоўная і грамадская дзейнасць школьнікаў, накіраваная непасрэдна на задавальненне якіх-небудзь грамадскіх патрэбнасцяў.

**Граматыка** (грэч. *grammatike*) — 1) раздзел мовазнаўства, які вывучае будову слова і сказа ў мове. 2) Сукупнасць правіл словазмянення і спалучэння слоў у сказы, уласцівыя якой-небудзь мове, а таксама кніга, у якой змешчаны гэтыя правілы.

**Гувернёр** (франц. *gouverneur*) — выхавальнік у дваранскіх і буржуазных сем`ях, якога наймалі прыватныя асобы для выхавання і пачатковага навучання дзяцей. Гэты тып дамашніх выхавальнікаў шырока выкарыстоўваўся ў Расіі ў XVIII-XIX стст. Звычайна гувернёры запрашаліся з-за мяжы, галоўным чынам з Францыі.

**Гульня дзіцячая** — адзін з асноўных відаў дзейнасці і важнейшы сродак выхавання дзяцей, асабліва малодшага ўзросту.

**Гуманізм** (лац. *gumanus* — чалавечны) — светапогляд, прасякнуты любоўю да чалавека, клопатамі аб дабрабыце людзей і развіцці ў іх высокіх маральных якасцяў.

**Гуманітарная адукацыя** (фр. *humanitaire*, лац. *humanitas* — чалавечая прырода, адукаванасць) — спецыяльная адукацыя ў галіне грамадскіх навук (філасофіі, гісторыі, філалогіі, мастацтва і г. д.).

**Гутарка** (у псіхалогіі) — адзін з метадаў псіхалагічнага даследавання. Выкарыстоўваецца з мэтай вывучэння псіхалагічных асаблівасцяў асобы чалавека, а таксама ўмоў фарміравання гэтых асаблівасцяў.

**Гутарка** (у дыдактыцы) — адзін з метадаў навучання, які выкарыстоўваецца для актывізацыі разумовай дзейнасці вучняў. У ходзе гутаркі вучні адказваюць на пытанні настаўніка, а таксама пытанні сваіх сяброў, набываюць новыя веды, замацоўваюць і паўтараюць ранейшы матэрыял.

# Д

**Дадатковыя вучэбныя заняткі**— адзін са сродкаў дапамогі адстаючым і неаспяваючым вучням. Праводзяцца ў пазаўрочны час індывідуальна або з невялікай групай вучняў. Асноўная мэта дадатковых вучэбных занятках — дапамагчы вучням ліквідаваць недахопы ў ведах.

**Дакументацыя школы** — зборная назва кніг, спраў і дакументаў, якія адлюстроўваюць перщасны ўнутрышкольны ўлік, справаздачнасць і планаванне навучальна-выхаваўчай і гаспадарчай дзейнасці.

**Дальтон-план** — сістэма арганізацыі навучальна-выхаваўчай працы ў школе, якая атрымала сваю назву ад г. Далтона (ЗША, штат Масачусэтс), дзе яна шырока прымянялася. Стваральніца дальтон-плана, амерыканская дзяячка народнай асветы Е. Паркхерст праводзіла даследчую працу па гэтай сістэме ў 1904-20 гг. у розных школах.

**Дапаможная школа** — спецыяльная вучэбна-выхаваўчая ўстанова для разумова адсталых дзяцей. Асноўны кантынгент навучэнцаў дапаможных школ складаюць дзеці-алігафрэны ў ступені дэбільнасці.

**Даследчы метад у навучанні** — метад навучання, які прадугледжвае такую арганізацыю навучальнага працэсу, пры якой вучні знаёмяцца з асноўнымі метадамі даследавання, што выкарыстоўваюцца пэўнымі навукамі, засвойваюць даступныя ім элементы даследчай методыкі. Выкарыстанне даследчага метаду садзейнічае развіццю пазнавальных здольнасцяў, актыўнасці і самастойнасці навучэнцаў.

**Дзейнасць** — важнейшая форма праяўлення актыўных адносін чалавека да навакольнай рэчаіснасці. Да дзейнасці чалавека стымулююць розныя патрэбнасці, інтарэсы, схільнасці, адчуванні, усведамленне абавязкаў, адказнасці, якія выступаюць у якасці матываў.

**Дзённік навучэнца** — спытак пэўнай формы для запісаў хатніх заданняў, уліку і кантролю за вучэбнай працай навучэнца. Уведзены ў 1936 г.

**Дзіцячы дом** — дзяржаўная выхаваўчая ўстанова для дзяцей, якія страцілі бацькоў ці сувязь з імі, дзяцей адзінокіх маці, а таксама дзяцей, якія маюць патрэбу ў абароне дзяржавы (у выніку хваробы бацькоў, пазбаўлення іх ад бацькоўскіх правоў і г. д.). Дзіцячыя ўстановы для дзяцей-сірот пад рознымі назвамі існуюць у многіх краінах з даўніх часоў.



**Дзіцячы садок** — установа для грамадскага выхавання дзяцей дашкольнага ўзросту. Дзіцячы садок як тып установы існуе пад той ці іншай назвай у розных краінах і з`яўляецца першым звяном у агульнай адукацыі. У Беларусі ў дзіцячых садках выхоўваюцца дзеці ва ўзросце ад 3 да 6-7 гадоў.

**Дзяжурства вучняў** — самадзейнасць, накіраваная на арганізацыю парадку ў школе. Дзяжурныя кантралююць выкананне правілаў паводзін, назіраюць за знешнім выглядам вучняў, за станам памяшканняў і мэблі. Звычайна назначаюцца дзяжурныя па школе, па класу, па раду партаў.

**Доктар навук** (лац. *doctor*) — вышэйшая вучоная ступень, а таксама асоба, якой прысуджана гэта ступень. Вучоная ступень доктара навук прысуджаецца навуковым работнікам, абараніўшым адпаведную дысертацыю.

**Дыдактыка** (гр. *didaktikos* — павучальны) — раздзел педагогікі, які распрацоўвае тэорыю адукацыі і навучання.

**Дыдактычныя прынцыпы** — прынцыпы дыдактыкі, якія вызначаюць змест, арганізацыйныя формы і метады навучальнай працы школы ў адпаведнасці з агульнымі мэтамі выхавання і заканамернасцямі працэсу навучання.

**Дыдаскал** (гр. *didascalos* — настаўнік) — настаўнік у Старажытнай Грэцыі (у школах граматыста і школах кіфарыста) і ў Візантыі.

**Дыкцыя** (лац. *dictio* — вымаўленне) — выразнасць вымаўлення асобных гукаў і іх спалучэнняў, адзін з элементаў культуры мовы.

**Дыпламант** — студэнт вышэйшай навучальнай установы або навучэнец сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, які скончыў тэарэтычны курс навучання, прайшоў вытворчую практыку і працуе над дыпломным праектам або дыпломнай працай пад кіраўніцтвам выкладчыка.

**Дыплом** (грэч.*diploma* — ліст, складзены ўдвое) — 1) дакумент аб заканчэнні вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, а таксама аб прысуджэнні вучонай ступені ці прысваенні ганаровага звання. 2) Пасведчанне, якое выдаецца за дасягненні, поспехі ў чым-небудзь.

**Дыпломны праект** — заключная выпускная праца студэнтаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных тэхнічных навучальных устаноў, на падставе якой дзяржаўная экзаменацыйная камісія вырашае пытанне аб прысваенні ім кваліфікацыі інжынера або тэхніка ў адпаведнасці з атрыманай спецыяльнасцю.

**Дыпломная праца** — заключная праца вучэбна-даследчага характару, якая выконваецца пры заканчэнні вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы. Абараняецца ў дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі.

**Дырэктар школы** (лац. *director*) — кіраўнік дзевяцігадовай або сярэдняй школы. Адказвае за арганізацыю і стан навучальна-выхаваўчай працы і гаспадарчую дзейнасць школы. З`яўляецца старшынёй педагагічнага савета. Назначаецца з ліку лепшых настаўнікаў, якія валодаюць арганізатарскімі здольнасцямі, маюць вышэйшую адукацыю і стаж педагагічнай працы не менш як тры гады.

**Дысертацыя** (лац. *dissertatio* — разважанне, даследаванне) — навуковая праца, якая публічна абараняецца аўтарам на пасяджэнні вучонага савета для атрымання вучонай ступені кандыдата або доктара навук.

**Дыспут** (лац. *disputare* — разважаць, спрачацца) — адна з формаў працы са старэйшымі школьнікамі. Дзейсны сродак выхавання і развіцця лагічнага мыслення навучэнцаў.

**Дысцыпліна школьная** (лац. *disciplina* — вучэнне, навучанне) — строгае і дакладнае падпарадкаванне ўстаноўленаму ў школе парадку, добрасумленнае выкананне сваіх абавязкаў, патрабаванняў настаўнікаў і школьнага калектыву.

**Дыферэнцыраванае навучанне** (лац. *differentio* — розніца, адрозненне) — у прымяненні да агульнаадукацыйнай школы — раздзяленне вучэбных планаў і праграм у старэйшых класах сярэдняй школы.

**Дэдуктыўны метад** (лац. *deductio* — вывядзенне) — метад навучання, у аснове якога ляжыць логіка раскрыцця зместу — ад агульнага да прыватнага.

**Дэкан** (лац. *decanus* — дзесятнік) — кіраўнік факультэта ў вышэйшай навучальнай установе. Дэкан абіраецца саветам вышэйшай навучальнай установы (факультэта) тайным галасаваннем з ліку прафесараў ці найбольш вопытных дацэнтаў. Дэкан адказвае за якасць навучальнай, выхаваўчай і навуковай працы на факультэце, з`яўляецца старшынёй савета факультэта.



**Дэфекталогія** (лац. *defectus* — недахоп + грэч. *logos* — вучэнне) — навука аб заканамернасцях і асаблівасцях развіцця дзяцей з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі і аб іх навучанні і выхаванні. Састаўнымі часткамі дэфекталогіі з`яўляюцца: сурдапедагогіка, тыфлапедагогіка, аліграфрэнапедагогіка, лагапедыя.

## Ж

**Жрэцкія школы** — школы пры храмах у Індыі , Егіпце і інш. краінах Старажытнага Усходу. Існавала 2 тыпы жрэцкіх школ: *пачатковыя*, або элементарныя, і *спецыяльныя*.

**Журналы педагагічныя** — перыядычныя выданні, прысвечаныя пытанням выхавання, адукацыі і навучання падрастаючага пакалення і дарослых.

## З

**Заалогія** (грэч. *zoon* — жывёла + *logos* — вучэнне) — 1) навука, якая вывучае жывёльны свет. 2) Частка вучэбнага прадмета біялогіі, зместам якой з`яўляюцца асновы навуковых ведаў аб будове і асноўных заканамернасцях жыцця і развіцця жывёльных арганізмаў.

**Заахвочванне** — мера педагагічнага ўздзеяння, якая выкарыстоўваецца ў тых выпадках, калі дзіця ўдала выканала цяжкае заданне, здзейсніла добры ўчынак і інш.

**Завучванне** — шэраг паўторных спробаў запомніць матэрыял, які не паддаецца запамінанню адразу.

**Заданні вучэбныя** — разнастайныя па зместу і аб`ёму віды самастойнай вучэбнай працы, якая выконваецца па ўказанні настаўніка, неад`емная частка працэсу навучання і важны сродак яго актывізацыі.

**Задаткі** — прыроджаныя анатама-фізіялагічныя асаблівасці арганізма, прыродныя прадпасылкі яго развіцця. Задаткі з`яўляюцца арганічнай асновай здольнасцяў.

**Завочная адукацыя** — адна з формаў падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй без адрыву ад працы на вытворчасці.

**Залік** — форма праверкі і ўліку ведаў студэнтаў па значных раздзелах тэарэтычных курсаў і па прадметах, у вывучэнні якіх пераважаюць практычныя заняткі.

**Заліковая кніжка** — дакумент студэнта ВНУ ці навучэнца сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, у які заносяцца ўсе дысцыпліны, уключаныя ў навучальны план, ставяцца экзаменацыйныя адзнакі і адзнакі аб заліках на практычных, лабараторных і інш. працах, адзнакі курсавых і дыпломных прац, адзначаецца перавод студэнта (навучэнца) на наступны курс.

**Замацаванне ведаў, уменняў і навыкаў** — спецыяльная праца настаўніка па ажыццяўленні прынцыпу трываласці засваення навучэнцамі вучэбнага матэрыялу.

**Замежная мова** — вучэбны прадмет, які выкладаецца ў школе з мэтай навучыць размаўляць, чытаць і пісаць на мове, якая вывучаецца ў аб`ёме, прадугледжаным праграмай.

**Запамінанне** — адзін з працэсаў памяці, у аснове якога ляжыць замацаванне адчуванняў, вобразаў, успрымання, уяўлення, думак, дзеянняў, перажыванняў. *Запамінанне* — аснова накаплення, захавання і ўзнаўлення чалавекам свайго вопыту.

**Запушчанасць педагагічная** — адхіленне ад нормы ў паводзінах і навучальнай дзейнасці дзіцяці, абумоўленае недахопамі выхавання. Педагагічна запушчанае дзіця — гэта нармальнае, здаровае дзіця, якое не валодае ведамі і ўменнямі, неабходнымі для таго, каб выканаць патрабаванні, якія прад`яўляюць яму бацькі, настаўнікі, дзіцячы калектыў.

**Зарадка (ранішняя гімнастыка)** — комплекс фізічных практыкаванняў, якія выконваюцца адразу пасля сну.

**Земскія школы** — пачатковыя школы ў дарэвалюцыйнай Расіі, якія адкрываліся земствамі ў сельскай мясцовасці.

**Зрок** — адно з пяці знешніх пачуццяў, органам якога з`яўляюцца вочы. Пры дапамозе зроку чалавек атрымлівае ўяўленне аб велічыні, форме і колеры прадметаў, іх адлегласці ад назіральніка, іх узаемным размяшчэнні і дзякуючы гэтаму мае магчымасць арыентавацца ў навакольным асяроддзі.



**Зрокавая памяць** — тып памяці, у якім галоўную ролю пры запамінанні выконвае зрокавы аналізатар.

# І

**Індуктыўны метад** (лац. *inductio* — **увядзенне, пабуджэнне**) — метад навучання, у аснове якога ляжыць логіка раскрыцця зместу — ад прыватнага да агульнага, ад фактаў да абагульненняў.

**Індывідуалізацыя навучання** — арганізацыя навучальнага працэсу, пры якой выбар спосабаў, прыёмаў, тэмпу навучання ажыццяўляецца з улікам індывідуальных асаблівасцяў навучэнцаў, узроўню іх здольнасцяў да вучобы. Неабходнасць індывідуалізацыі навучання выклікаецца тым, што ўзровень падрыхтоўкі і развіцця здольнасцяў да вучобы не ва ўсіх школьнікаў аднолькавы.

**Індывідуальнае навучанне** — адна з формаў арганізацыі вучэбных заняткаў. Шырока прымянялася ў сярэднія вякі. Пры такой сістэме заняткаў кожны вучань атрымліваў асобнае заданне і пасля праверкі яго выканання настаўнікам пераходзіў да вывучэння наступнага. Індывідуальнае навучанне захавалася ў форме хатняй падрыхтоўкі выпускнікоў да паступлення ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

**Індывідуальнасць** — сукупнасць характэрных, адметных рыс, якія вылучаюць якую-небудзь асобу.

**Індывідуальны падыход** — прынцып педагогікі, што прадугледжвае арганізацыю педагагічнага ўздзеяння з улікам індывідуальных асаблівасцяў асобы дзіцяці, выхавання і ўмоў жыцця, у якіх ён знаходзіцца.

**Інспектар** (лац. *inspector* — **наглядальнік**) — службовая асоба ў раённых, гарадскіх, абласных аддзелах народнай адукацыі, якая ажыццяўляе кантроль за станам навучальна-выхаваўчай працы ў школах і пазашкольных установах.

**Інстынкт** (лац. *instinctus* — **пабуджэнне**) — прыроджаная здольнасць жывёльных арганізмаў рабіць несвядомыя мэтанакіраваныя дзеянні ў адказ на змены унутранага або знешняга асяроддзя. У аснове інстынкту ляжаць безумоўныя рэфлексы. Інстынкты выпрацоўваюцца ў працэсе гістарычнага развіцця і ўласцівы ўсім жывёльным арганізмам, якія маюць нервовую сістэму.

**Інстытут** (лац. *institutum* — установа, устанаўленне) — 1) навучальная ўстанова, якая дае вышэйшую адукацыю ў якой-небудзь галіне. 2) Навукова-даследчая ўстанова. 3) Сярэдняя навучальная ўстанова закрытага тыпу для жанчын у дарэвалюцыйнай Расіі.

**Інстытуты ўдасканалення настаўнікаў** — навукова-метадычныя ўстановы, якія ажыццяўляюць павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў і іншых работнікаў сістэмы народнай адукацыі.

**Інтанацыя** (лац. *intonare*) — 1) тон, характар вымаўлення, якія выражаюць пачуццё таго, хто гаворыць, яго адносіны да прадмета гутаркі, асаблівасці яго душэўнага складу. 2) Рытміка-дынамічны лад мовы: чаргаванне павышэнняў і паніжэнняў тону пры вымаўленні. 3) Дакладнае па вышыні выкананне ўсіх музычных гукаў.

**Інтарэс** (лац. *interesse* — маю важнае значэнне) — актыўная пазнавальная накіраванасць чалавека на той або іншы прадмет ці з'яву рэчаіснасці, якая звычайна суправаджаецца станоўчымі эмацыянальнымі перажываннямі.

**Інтуіцыя** (лац. *intuitus* — прыглядванне) — неўсвядомленае чуццё, заснаванае на папярэднім вопыце, якое накіроўвае на правільныя дзеянні.

**Інтэлект** (лац. *intellectus* — разуменне, розум) — здольнасць чалавека мысліць, разважаць; узровень разумовага развіцця.

**Інтэрнат** (лац. *internus* — унутраны) — памяшканне для сумеснага пражывання людзей, якія вучацца ў адной навучальнай установе.

**Інтэрнацыянальнае выхаванне** (лац. *inter* — паміж + *natio, -onis* народ) — фарміраванне і развіццё пачуцця сяброўства паміж народамі і павагі да людзей усіх нацыянальнасцяў.

# К

**Кабінетная сістэма навучання** — арганізацыя навучання, пры якой заняткі па ўсіх прадметах навучальнага плана праходзяць у спецыяльна абсталяваных вучэбных кабінетах.

**Кадэцкі корпус** (франц. *cadet* — малодшы) — закрытая сярэдняя ваенна-навучальная ўстанова ў дарэвалюцыйнай Расіі для падрыхтоўкі дваранскіх сыноў да афіцэрскай службы.



**Калектыў дзіцячы** — група дзяцей, аб'яднаных сумеснай карыснай дзейнасцю. Дзіцячаму калектыву, як і любому іншаму, уласцівы асноўныя прыметы — адзінства мэты, поўная арганізацыя сумеснай дзейнасці.

**Калёквіум** (лац. *colloquium* — гутарка) — 1) гутарка выкладчыка з навучэнцамі з мэтай выяўлення і павышэння іх ведаў. 2) Навуковы сход, на якім чытаюцца і абмяркоўваюцца даклады.

**Кандуіт** (франц. *conduite* — паводзіны) — журнал для запісаў звестак аб паводзінах вучняў у навучальных установах. Упершыню ўведзены ў школах Германіі ў сярэдзіне XIX ст. па прапанове Гербарта. Шырока выкарыстоўваўся ў навучальных установах дарэвалюцыйнай Расіі.

**Кандыдат навук** (лац. *candidatus* — адзеты ў белае) — 1) малодшая вучоная ступень, якая прысуджаецца асобам на падставе абароны дысертацыі. Ступень кандыдата навук была ўведзена ў Расіі ў пачатку XIX ст. Яна прысвойвалася выпускнікам пасля заканчэння імі вышэйшай навучальнай установы з адзнакай. 2) Асоба, якой прысуджана ступень кандыдата навук.

**Кандыдацкі мінімум** — экзамены, якія здаюць аспіранты і суіскальнікі вучонай ступені кандыдата навук перад абаронай дысертацыі.

**Канікулы** (лац. *caniculares* — самая гарачая пара года) — працяглы перапынак у занятках навучэнцаў, студэнтаў для адпачынку. Канікулы ўстанаўліваюцца заканадаўствам кожнай краіны з улікам яе кліматычных умоў, асаблівасцяў і традыцый. Для навучэнцаў школ Беларусі ўстаноўлены асеннія, зімовыя, вясеннія і летнія канікулы.

**Канспект** (лац. *conspectus* — агляд) — кароткі запіс, сціслы выклад зместу кнігі, лекцыі, даклада. Канспектаванне з'яўляецца адным са спосабаў актывізацыі пазнавальнай дзейнасці. У працэсе канспектавання навучэнцы вучацца выдзяляць галоўнае, асноўнае з прачытанага або пачутага, сцісла, стройна і паслядоўна выказваць думкі.

**Кансультацыя вучэбная** (лац *consultatio* — парада) — дадатковыя заняткі выкладчыкаў з навучэнцамі з мэтай лепшага засваення матэрыялу. Праводзяцца індывідуальна і па групах, па дакладнаму графіку або па меры неабходнасці, асабліва ў перыяд падрыхтоўкі да экзаменаў.

**Кантрольная пісьмовая праца** — адна з формаў кантролю і ўліку ведаў, уменняў і навыкаў навучэнцаў. Кантрольныя працы праводзяцца па завяршэнні вывучэння тэмы або раздзела курса, у канцы чвэрці, навучальнага года і на экзаменах.

**Кафедра** (гр.kathedra — **сядзенне**) — 1) аб`яднанне выкладчыкаў аднаго або некалькіх навуковых прадметаў у вышэйшай навучальнай установе. 2) Спецыяльнае ўзвышанае месца для прамоўцы, лектара, выкладчыка.

**Класна-ўрочная сістэма навучання**— сістэма арганізацыі вучэбных заняткаў у школе, пры якой навучанне ажыццяўляецца ў класах з пастаянным складам вучняў, па пэўнаму раскладу, а асноўнай формай навучання з`яўляецца ўрок.

**Класны журнал** — асноўны дакумент, які змяшчае запісы вывучаных тэм, улік наведвання і паспяховасці вучняў на працягу года.

**Класны кіраўнік** — настаўнік, які арганізуе паўсядзённую навучальна-выхаваўчую працу ў даручаным яму класе. У пачатковай школе абавязкі класнага кіраўніка выконвае настаўнік класа. Пачынаючы з 5-га класа *класным кіраўніком* назначаецца адзін з настаўнікаў, які працуе ў класе.

**Клас школьны** (лац. *classis* — разрад) — 1) пастаянны, у межах навучальнага года калектыў навучэнцаў аднаго ўзроўню ведаў. 2) Пакой для заняткаў у школе. 3) У вучэбным плане — гадавы курс навучання з указаннем дысцыплін і размеркаваннем вучэбнага часу паміж імі.

**Курсавая праца** — самастойная вучэбная праца, якая выконваецца студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў. Курсавая праца абараняецца на кафедры ці ў спецыяльнай камісіі, што ствараецца кафедрай, з удзелам навуковага кіраўніка.

**Курс навучання** (лац. *cursus* — **ход, цячэнне**) — 1) сістэматычны выклад якой-небудзь дысцыпліны, галіны ведаў, а таксама падручнік, які з`яўляецца такім выкладам. 2) Увесь аб`ём якога-небудзь навучання. 3) Навучальны год у спецыяльнай сярэдняй і вышэйшай навучальнай установе.



# Л

**Лабарант** (лац. *laborans, -ntis* — **які працуе**) — у сярэдняй школе — штатны супрацоўнік, у абавязкі якога ўваходзіць захаванне ў належным стане абсталявання вучэбнага кабінета, падрыхтоўка абсталявання для дэманстрацыйных вопытаў і лабараторных прац, дапамога настаўніку ў правядзенні лабараторных прац і практыкумаў.

**Лабараторна-брыгадны метад** — спосаб арганізацыі навучальнага працэсу ў школе, заснаваны на выкананні брыгадамі навучэнцаў самастойных вучэбна-лабараторных заданняў, разнавіднасць амерыканскага далтон-плана. Шырокае прымяненне меў у савецкай школе у 1930-32 гадах. У 1932 годзе практыка прымянення лабараторна-брыгаднага метаду як універсальнага была асуджана.

**Лабараторныя працы** — у агульнаадукацыйнай школе — адзін з метадаў навучання, сутнасцю якога з`яўляецца самастойнае выкананне вучнямі па заданню настаўніка вопытаў з выкарыстаннем прыбораў, інструментаў, матэрыялаў, установак і іншай тэхнікі. Лабараторныя працы прадугледжваюцца вучэбнымі праграмамі школы і з`яўляюцца абавязковымі пры вывучэнні *фізікі, хіміі, біялогіі.*

**Лагапедыя** (грэч. *logos* — **слова** + *paideia* — **выхаванне**) — галіна спецыяльнай педагогікі, якая даследуе праяўленне і прыроду недахопаў вымаўлення, прычыны і механізмы адхіленняў у развіцці мовы, распрацоўвае прынцыпы і метады іх пераадольвання.

**Лекцыя** (лац. *lectio* — **чытанне**) — 1) метад навучання, які заключаецца ў сістэматычным, паслядоўным вусным выкладанні выкладчыкам раздзела навукі або навучальнага курса. Лекцыя з`яўляецца адным з асноўных метадаў навучання ў вышэйшых навучальных установах. У агульнаадукацыйных школах выкарыстоўваецца выключна ў старэйшых класах. 2) Публічнае чытанне на якую-небудзь тэму.

**Літаратура ў школе** (лац. *litteratura*) — вучэбны прадмет, зместам якога з`яўляецца вывучэнне твораў мастацкай літаратуры, а таксама асноў тэорыі і гісторыі літаратуры.

**Ліцэй** (гр. *Lykeion* — **школа ў Афінах, дзе вучыў Арыстоцель**) — 1) сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная ўстанова ў некаторых краінах Заходняй Еўропы, Лацінскай Амерыкі, Афрыкі. У апошнія гады ствараюцца ў Беларусі. 2) Прывілеяваная навучальная ўстанова для дваранскіх сыноў у дарэвалюцыйнай Расі

# М

**Магістр** (лац. *magister* — **настаўнік**) — 1) выкладчык "сямі свабодных мастацтваў" ва універсітэтах сярэдневякоўя. 2) Першая вучоная ступень у некаторых зарубежных краінах і дарэвалюцыйнай Расіі, а таксама асоба, якая мае гэту ступень. 3) Другая акадэмічная ступень, якая прысвойваецца ў вышэйшых навучальных установах ЗША і Англіі. 4) У Беларусі — ступень магістра (прысуджаецца асобам, якія скончылі універсітэцкі курс і прайшлі ў дадатак да яго аднагадовую падрыхтоўку.

**Малакамплектная школа** — пачатковая школа, у якой настаўнікаў менш чым класаў і кожны настаўнік адначасова працуе з некалькімі класамі. Малакамплектныя школы існуюць у невялікіх населеных пунктах.

**Маляванне ў школе** — сістэма ўрочных і пазакласных заняткаў выяўленчым мастацтвам, у больш вузкім сэнсе — вучэбны прадмет (з 1964 года называецца "*Выяўленчае мастацтва*").

**Манастырскія школы** — у Заходняй Еўропе сярэдневяковыя школы пры манастырах. Існавалі *ўнутраныя* манастырскія школы, дзе навучаліся хлопчыкі, што жылі ў манастыры, а таксама *знешнія* — іх наведвалі дзеці, якія жылі пры бацьках.

**Маральнае выхаванне** — мэтанакіраванае фарміраванне маральнай свядомасці, развіццё маральных пачуццяў і выпрацоўка навыкаў і прывычак маральных паводзін.

**Маральная свядомасць** — адлюстраванне ў свядомасці чалавека прынцыпаў маралі, г. зн. нормаў паводзін, якія рэгулююць адносіны людзей паміж сабой і да грамадства.

**Маральныя паводзіны** — паводзіны, абумоўленыя маральнымі нормамі і прынцыпамі, якія рэгулююць адносіны людзей у пэўным грамадстве.

**Маральныя паняцці** — паняцці, у якіх адлюстроўваюцца істотныя бакі маральных адносін, г. зн. адносін чалавека да іншых людзей і да грамадства.

**Маральныя пачуцці** — перажыванне чалавекам сваіх адносін да ўчынкаў і дзеянняў, якія рэгулююцца нормамі маралі.



**Матэматыка ў школе** (гр. *mathematike*, ад *mathema* — **навука, веды**) — вучэбны прадмет, зместам якога з'яўляецца вывучэнне асноў арыфметыкі, алгебры, геаметрыі і трыганаметрыі.

**Матэматычныя метады даследавання** — метады колькаснага і структурнага даследавання і апісання якасцяў педагагічных і псіхалагічных з'яў з дапамогай фармальных мадэляў, колькасных характарыстык і функцыянальных адносін.

**Метад навучання** (гр. *methodos*) — спосаб сумеснай дзейнасці настаўніка і навучэнцаў, накіраванай на рашэнне задач адукацыі, выхавання і развіцця ў працэсе навучання. Метады навучання гістарычна змяняюцца разам са зменамі мэтаў і зместу адукацыі.

**Метадычнае аб'яднанне** — адна з арганізацыйных формаў калектыўнай метадычнай працы ў сістэме павышэння кваліфікацыі настаўнікаў у краінах СНД. Метадычныя аб'яднанні арганізуюцца па тэрытарыяльнай прымеце (школьныя, міжшкольныя, куставыя, раённыя). У задачу метадычных аб'яднанняў уваходзіць абмеркаванне пытанняў тэорыі і практыкі навучання і выхавання, арганізацыя абмену вопытам працы, укараненне вопыту лепшых настаўнікаў і школ, знаёмства з навінамі педагагічнай, метадычнай і навукова-папулярнай літаратуры.

**Методыка вучэбнага прадмета** — педагагічная навука, якая даследуе заканамернасці навучання пэўнаму вучэбнаму прадмету. Паколькі агульныя заканамернасці навучання даследуюцца дыдактыкай, правамерна разглядаць методыку як прыватную дыдактыку.

**Міміка** (гр. *mimikos* — **пераймальны**) — выразныя рухі мышцаў на твары, якія выражаюць пачуцці, настрой.

**Міністэрства адукацыі і навукі** — у Беларусі міністэрства, якое ажыццяўляе кіраўніцтва дашкольнымі установамі, усімі тыпамі агульнаадукацыйных школ, пазашкольнымі ўстановамі, вышэйшымі і сярэднімі спецыяльнымі навучальнымі ўстановамі.

**Мова** — сукупнасць агульнапрынятых гукавых і лексіка-граматычных сродкаў для выказвання думак і зносін паміж людзьмі.

**Музычнае выхаванне** — мэтанакіраванае і сістэматычнае развіццё музычных здольнасцяў, выхаванне эмацыянальнай чуласці да музыкі, умення разумець і глыбока ўспрымаць яе змест. Музычнае выхаванне з'яўляецца часткай эстэтычнага выхавання.

**Музычны слых** — здольнасць успрымаць гукавыя спалучэнні, запамінаць іх і свядома ўзнаўляць. Адрозніваюць абсалютны музычны слых і адносны. *Абсалютны слых* — здольнасць вызначаць і ўзнаўляць вышыню гука безадносна да іншых гукаў, вышыня якіх вядома. *Адносны слых* — здольнасць вызначаць вышыню гука шляхам параўнання яго з іншымі гукамі, вышыня якіх вядома.

**Муляж вучэбны** (франц. *moulage*) — наглядны дапаможнік, які ўяўляе сабой трохмерны пластычны злепак (пераважна прыродных аб'ектаў) натуральнай велічыні, што дакладна перадае знешнюю форму, структуру і натуральную афарбоўку.

**Мысленне** — апасродкаванае і абагульненае пазнанне чалавекам прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці ў іх істотных якасцях, сувязях і адносінах. Беручы пачатак у пачуццёвым пазнанні (адчуванне, успрыманне, уяўленне), мысленне выходзіць за яго межы і дазваляе чалавеку пазнаваць тое, што не можа быць непасрэдна ўспрынята органамі пачуццяў.

## Н

**Навуковасць навучання** — адзін з важнейшых дыдактычных прынцыпаў, выкарыстанне якога садзейнічае авалоданню навучэнцамі навуковымі ведамі і забяспечвае фарміраванне ў іх навуковага светапогляду.

**Навучанне** — працэс мэтанакіраванай сумеснай дзейнасці выкладчыка і навучэнцаў, у ходзе якой вырашаюцца задачы адукацыі, выхавання і агульнага развіцця. *Навучанне* — двухбаковы працэс, у якім удзельнічаюць *настаўнік* (выкладанне) і *вучні* (вучэнне).

**Навучанне грамаце** — навучанне чытанню і пісьму. Выбар метаду навучання грамаце вызначаецца суадносінамі паміж вуснай мовай і пісьмовай, гукамі і літарамі. Сучасны метад навучання грамаце ў беларускай школе адпавядае гукавому прынцыпу беларускага пісьма. Навучэнцы вучацца абазначаць гукі мовы літарамі, г. зн. пісаць і ўзнаўляць па літарах гукі мовы, г. зн. чытаць.

**Навучанне і развіццё** — адна з асноўных праблем педагогікі. Яна мае два аспекты: 1) улік узроставых асаблівасцяў дзяцей пры арганізацыі навучання; 2) роля навучання ў развіцці дзяцей. Асаблівасці ўзросту і арганізацыі навучання знаходзяцца ва ўзаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці: не толькі сістэма навучання залежыць ад узроставых асаблівасцяў, але і асаблівасці ўзросту ў іх канкрэтным выражэнні залежаць ад сістэмы навучання.



**Навык** — дзеянне, якое характарызуецца высокай мерай засваення. На гэтай ступені дзеянне становіцца аўтаматызаваным — свядомы кантроль настолькі прыніжаны, што ўзнікае ілюзія яго поўнай адсутнасці.

**Назіральнасць** — здольнасць бачыць, заўважаць у навакольным свеце розныя факты, з'явы, якія не заўсёды бачаць, заўважаюць іншыя.

**Назіранне** — планамернае, больш або менш працяглае ўспрыманне, якое дае магчымасць прасачыць за тымі зменамі, што адбываюцца ў аб'ектах або з'явах. Назіранне з'яўляецца адным з важных метадаў псіхолага-педагагічных даследаванняў.

**Нагляднасць у навучанні** — дыдактычны прынцып, згодна з якім навучанне будуецца на канкрэтных вобразах, якія непасрэдна ўспрымаюцца навучэнцамі. У сучаснай дыдактыцы паняцце нагляднасці адносіцца да розных відаў успрымання (зрокавыя, слыхавыя і інш). Нагляднасць узбагачае кола ўяўленняў школьнікаў, робіць навучанне больш даступным, развівае назіральнасць, мысленне, дапамагае больш глыбокаму і трываламу засваенню матэрыялу.

**Наглядныя вучэбныя дапаможнікі** — сродкі нагляднасці ў навучанні, якія ўяўляюць сабой плоскасныя або прасторавыя адлюстраванні прадметаў і з'яў, спецыяльна створаных для мэтаў навучання, вытворчыя і прыродныя аб'екты ў іх натуральным або прэпараваным выглядзе.

**Народная адукацыя** — сукупнасць адукацыйна-выхаваўчых устаноў краіны, якія прызначаны для абслугоўвання ўсяго насельніцтва.

**Народная педагогіка** — сукупнасць эмпірычных педагагічных ведаў, вопыту выхавання і навучання, назапашаных многімі пакаленнямі народа.

**Настрой** — агульны эмацыянальны стан чалавека (радасць, смутак, бадзёрасць, вяласць і інш.), які надае пэўную афарбоўку ўсім іншым перажываннямі.

**Натхненне** — своеасаблівы пад'ём духоўных сіл і здольнасцяў чалавека, які назіраецца ў працэсе творчай працы. Натхненне характарызуецца высокай прадуктыўнасцю працэсаў мыслення (яснасць свядомасці, з'яўленне творчых думак і вобразаў, хуткасць мыслення), павы-

шанай агульнай актыўнасцю чалавека і асаблівым эмацыянальным пад`ёмам.

**Нядзельныя школы** — агульнаадукацыйныя школы для дарослых (рабочых, сялян і рамеснікаў), заняткі ў якіх праходзілі ў нядзельныя дні; адна з устаноў сістэмы пазашкольнай адукацыі ў Расіі. Першыя нядзельныя школы ўзніклі ў канцы 50-х гадоў XIX ст. Нядзельнымі таксама называюцца школы, якія ствараюцца рэлігійнымі і дабрачыннымі арганізацыямі з мэтай рэлігійнага выхавання.

## О

**Органы пачуццяў** — спецыялізаваныя органы, якія ўспрымаюць раздражненні, што атрымліваюць арганізмы жывёл і чалавека з навакольнага асяроддзя (органы зроку, слыху, смаку, нюху, дотыку). Органы пачуццяў уяўляюць сабой перыферычныя аддзелы адпаведных аналізатараў.

## П

**Паводзіны** — рэакцыя і дзеянні чалавека, якія адлюстроўваюць яго адносіны да навакольнага асяроддзя. Паводзіны чалавека ўяўляюць сабой сістэму дзеянняў свядомай асобы, у якой праяўляюцца, у першую чаргу, яго ўзаемаадносіны з сацыяльным асяроддзем. Сацыяльна прымальныя формы паводзін складаюцца ў працэсе грамадскага жыцця чалавека, у выніку яго выхавання.

**Пазакласная праца** — арганізаваныя і мэтанакіраваныя заняткі, якія праводзяцца з вучнямі ў пазаўрочны час для пашырэння і паглыблення іх ведаў, уменняў і навыкаў, развіцця самастойнасці, індывідуальных здольнасцяў, а таксама задавальнення іх інтарэсаў і забеспячэння карыснага адпачынку.

**Пазакласнае чытанне** — самастойнае, педагагічна арганізаванае чытанне вучнямі мастацкай, навукова-папулярнай і іншай літаратуры. Пазакласнае чытанне пашырае і паглыбляе школьную праграму, а таксама задавальняе самыя разнастайныя інтарэсы вучняў.

**Пазашкольная праца** — адукацыйна-выхаваўчая праца, якая ажыццяўляецца пазашкольнымі дзіцячымі і культурна-асветніцкімі ўстановамі, органамі народнай адукацыі і грамадскімі арганізацыямі з мэтай задавальнення разнастайных культурных інтарэсаў і патрабаванняў навучэнцаў, развіцця іх самадзейнасці і творчых здольнасцяў, разумнай арганізацыі вольнага часу.



**Пазашкольныя ўстановы** — адукацыйна-выхаваўчыя ўстановы, якія ажыццяўляюць працу з дзецьмі ў пазавучэбны час. Пазашкольныя ўстановы дапаўняюць навучанне ў школе, развіваюць інтарэсы вучняў у розных галінах навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва, фізкультуры і спорту, садзейнічаюць арганізацыі вольнага часу дзяцей.

**Пазнанне** — працэс аб`ектыўнага азнаямлення з навакольным светам.

**Пакаранне** — мера педагагічнага ўздзеяння, якая выкарыстоўваецца ў тых выпадках, калі дзіця не выканала ўстаноўленых патрабаванняў ці парушыла прынятыя нормы і правілы паводзін.

**Палестра** (грэч. *palaistra*) — гімнастычная школа ў Ст. Грэцыі. Навучальная ўстанова закрытага тыпу, дзе вучыліся хлопчыкі з 12 да 15 гадоў.

**Памяць** — здольнасць запамінаць, захоўваць і аднаўляць у свядомасці ранейшыя ўражанні. Памяць з`яўляецца неабходнай умовай назапашвання і выкарыстання чалавекам свайго вопыту, умовай яго псіхічнага развіцця, фарміравання яго асобы. Набыццё новага вопыту, новыя зрухі ў развіцці псіхікі чалавека заўсёды грунтуюцца на дасягнутых ужо выніках, якія захоўваюцца памяццю.

**Пасіўнасць** (лац. *passivus* — надзейны) — асаблівасць паводзін чалавека, у стойкіх формах — рыса характару, якая праяўляецца ў адсутнасці ў нармальнага і здаровага чалавека імкнення, патрэбнасці і прывычкі праяўляць фізічную ці разумовую актыўнасць, настойлівасць, ініцыятыўнасць. Процілеглая актыўнасці.

**Паўтарэнне ў навучанні** — узнаўленне раней засвоеных ведаў, уменняў і навыкаў з мэтай іх удасканалення і прымянення да новых навучальных задач. Паўтарэнне садзейнічае трываламу і глыбокаму засваенню ведаў, уменняў і навыкаў, а таксама прывядзенню іх у сістэму.

**Пачатковая школа** — агульнаадукацыйная навучальна-выхаваўчая ўстанова для дзяцей малодшага школьнага ўзросту, якая дае пачатковую адукацыю. У Беларусі пачатковая школа 4-гадовая (I — IV класы). 2) Назва часопіса, прысвечанага праблемам выкладання і выхавання ў пачатковых класах.

**Педагагічная адукацыя** — 1) працэс падрыхтоўкі педагагічных кадраў для навучальна-выхаваўчых устаноў. 2) Сукупнасць агульнатэарэтычных, педагагічных і спецыяльных ведаў і практычных педагагічных навыкаў, якія дазваляюць атрымаўшым педагагічную адукацыю весці навучальна-выхаваўчую працу ў навучальна-выхаваўчых установах.

**Педагагічная практыка** — у педагагічных ВНУ і вучылішчах, універсітэтах састаўная частка навучальнага працэсу, якая праводзіцца з мэтай навучыць студэнтаў і навучэнцаў творча прымяняць у педагагічнай дзейнасці навукова-тэарэтычныя веды і практычныя навыкі, атрыманыя пры вывучэнні педагогікі, псіхалогіі, прыватных методык і спецыяльных дысцыплін, спрыяць развіццю ў будучых настаўнікаў інтарэсу да навукова-даследчай дзейнасці ў галіне педагагічных навук.

**Педагагічная прапаганда** (лац. *propaganda* — тое, што трэба распаўсюджваць) — распаўсюджванне і растлумачванне педагагічных ведаў, дасягненняў педагагічнай навукі і перадавога педагагічнага вопыту сярод работнікаў адукацыі і шырокіх колаў насельніцтва.

**Педагагічная псіхалогія** — галіна псіхалогіі, якая вывучае псіхічную дзейнасць дзяцей ва ўмовах выхавання і навучання. Педагагічная псіхалогія выяўляе псіхалагічныя факты і заканамернасці, веданне якіх неабходна для педагагічнай тэорыі і практыкі.

**Педагагічны савет школы** — орган калектыўнага кіраўніцтва школай. У склад педагагічнага савета ўваходзяць: дырэктар школы, яго намеснікі, усе настаўнікі, бібліятэкар, школьны ўрач, старшыня бацькоўскага камітэта. Старшынёй педагагічнага савета з'яўляецца дырэктар школы. На працягу навучальнага года праводзіцца не больш як 5-6 пасяджэнняў педагагічнага савета.

**Педагагічныя вучылішчы** — сярэднія педагагічныя ўстановы, якія рыхтуюць выхавальнікаў дзіцячых садкоў, настаўнікаў пачатковых класаў, настаўнікаў спеваў, фізкультуры, выяўленчага мастацтва для агульнаадукацыйных школ.

**Педагагічныя інстытуты** — вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія рыхтуюць настаўнікаў для сярэдніх агульнаадукацыйных школ, педагогаў і выхавальнікаў для дашкольных устаноў, спецыяльных школ і інш.

**Педагог** (грэч. *paidagogos* — выхавальнік, настаўнік) — 1) асоба, якая выконвае практычную работу ў галіне выхавання і навучання (настаўнік школы, выхавальнік дашкольнай установы, выкладчык сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы, ВНУ і інш.). 2) Навуковы супрацоўнік, які распрацоўвае праблемы педагогікі як навукі.



**Педагогіка** (грэч. *paidagogike*) — 1) сукупнасць тэарэтычных і прыкладных навук аб выхаванні і навучанні. 2) Курс, які выкладаецца ў педагагічных навучальных установах.

**Перавыхаванне** — сістэма выхаваўчых уздзеянняў педагога, накіраваная на пераробку, "перакоўку" няправільна сфарміраванай асобы выхаванца, на выпраўленне тых яго якасцяў, прывычак, рыс, якія супярэчаць нормам і патрабаванням грамадства.

**Пераемнасць у навучанні** — устанаўленне неабходнай сувязі і правільных суадносін паміж часткамі вучэбнага прадмету на розных ступенях яго вывучэння. Паняцце пераемнасці характарызуе таксама патрабаванні, якія прад'яўляюцца да ведаў і уменняў навучэнцаў на кожным этапе навучання, формаў, метадаў і прыёмаў тлумачэння новага вучэбнага матэрыялу і да ўсёй наступнай працы па яго засваенні. Пераемнасць павінна ахопліваць не толькі асобныя прадметы, але і адносіны паміж імі.

**Пераменка школьная** — перапынак паміж урокамі. Прынятая ў школах Беларусі працягласць пераменкі паміж урокамі — 10 хвілін. Працягласць вялікай пераменкі — 20-30 хвілін. У час пераменак вучні пераходзяць з кабінета ў кабінет, адпачываюць. На вялікай пераменцы арганізуецца харчаванне вучняў.

**Перапынак паміж урокамі** — гл. Пераменка школьная.

**Політэхнічнае навучанне** (грэч. *poly* — многа + *techne* — майстэрства) — навучанне, якое дае веды пра галоўныя галіны і навуковыя прынцыпы вытворчасці, фарміруе агульнатэхнічныя ўменні, неабходныя для ўдзелу ў вытворчай працы.

**Праверка ведаў, уменняў, навыкаў** — састаўная частка працэсу навучання, мэтай якой з'яўляецца кантроль за вучэбнай працай школьнікаў, улік іх паспяховасці. Праверцы ўласцівы не толькі кантрольныя, але і навучальныя функцыі. Выявіўшы прабелы ў ведах навучэнцаў, настаўнік дабіваецца іх ліквідацыі, навучае вучняў прыёмам разумовай і практычнай работы.

**Правілы для вучняў** — арганізацыйна-метадычны дакумент, які вызначае асноўныя абавязкі і нормы паводзінаў навучэнцаў у школе, на вуліцы, у грамадскіх месцах.

**Прадмет вучэбны** — дыдактычна абгрунтаваная сістэма ведаў, уменняў і навыкаў, выбраных з адпаведнай галіны навукі ці мастацтва для вывучэння ў навучальнай установе. Пералік і ўзаемасувязь прадметаў, якія вывучаюцца ў навучальнай установе таго ці іншага тыпу, вызначаецца вучэбным планам гэтай установы.

**Праграма вучэбная** (грэч. *programma* — распараджэнне, аб`ява)— дакумент, які вызначае асноўны змест навучання па пэўнаму вучэбнаму прадмету, аб`ём ведаў, уменняў і навыкаў, што неабходна засвоіць навучэнцам. Змест адукацыі, які вызначаны вучэбнымі праграмамі, атрымлівае канкрэтызацыю ў падручніках і вучэбных дапаможніках.

**Практыкум** (грэч. *praktikos* — дзейны) — 1) від практычных заняткаў па курсу якой-небудзь дысцыпліны звычайна ў вышэйшых навучальных установах, а таксама ў старэйшых класах агульнаадукацыйнай школы. Практыкумы праводзяцца пасля завяршэння значных раздзелаў курса з мэтай паўтарэння або абагульнення. 2) Вучэбны дапаможнік для правядзення заняткаў.

**Практычныя працы** (грэч. *praktikos* — дзейны) — адзін з відаў вучэбнай дзейнасці школьнікаў або студэнтаў, па сваіх мэтах і задачах аналагічны лабараторным працам. *Практычныя працы* праводзяцца звычайна пасля вывучэння тэмы ці раздзела курса. Яны ўключаюцца ў вучэбную праграму, і іх выкананне з`яўляецца абавязковым. Сістэматычнае выкананне практычных прац — важнейшы сродак сувязі тэорыі і практыкі навучання.

**Прафесар** (лац. *professor* — выкладчык, настаўнік) — вышэйшае вучонае званне выкладчыка вышэйшых навучальных устаноў, а таксама выкладчык, які мае гэта званне.

**Прафесійная адукацыя** — 1) падрыхтоўка ў навучальных установах спецыялістаў вышэйшай, сярэдняй і ніжэйшай кваліфікацыі для розных галін навукі, тэхнікі і культуры. 2) Сукупнасць ведаў, уменняў і навыкаў, неабходных для рознай працоўнай дзейнасці.

**Прафесійная арыентацыя** — этапы, састаўныя часткі дзейнасці педагогаў, псіхолагаў, урачоў і інш. спецыялістаў, накіраванай на падрыхтоўку моладзі да свядомага выбару прафесіі.

**Прывычка** — сфарміраванае дзеянне, выкананне якога пры пэўных абставінах стала патрэбнасцю чалавека (напр., мыць рукі перад ядой, чысціць зубы і інш.). Прывычкі могуць быць карыснымі і шкоднымі.



**Прыродазнаўства** — вучэбны прадмет у пачатковых класах сярэдняй школы. Ён уключае ў сябе элементарныя звесткі аб нежывой і жывой прыродзе, аб прыродных багаццях роднага краю, аб будове цела чалавека. Як самастойны вучэбны прадмет прыродазнаўства вывучаецца у 3-м класе.

**Псіхалогія** (грэч. *psyche* — душа + *logos* — вучэнне) — навука аб заканамернасцях, развіцці і формах псіхічнай дзейнасці.

**Псіхіка** (грэч. *psychikos* — душэўны) — уласцівасць высокаарганізаванай матэрыі — галаўнога мозга — адлюстроўваць навакольны свет у пачуццях, адчуваннях, думках.

**Пунктуацыя** (лац. *punctum* — кропка) — сукупнасць правілаў расстаноўкі знакаў прыпынку — адно з графічных сродкаў выражэння думкі.

# Р

**Раздататачны матэрыял** — наборы прыродных ці штучных аб`ектаў, якія раздаюцца навучэнцам для непасрэднага дэтальнага азнаямлення або практычнай работы.

**Развіццё** — працэс пераходу з аднаго стану ў другі, больш дасканалы; працэс, у якім паступовае накапленне колькасных змен прыводзіць да з`яўлення якасных змен.

**Развіццё мовы ў школе** — педагагічны працэс, сістэма метадаў і прыёмаў навучання, а таксама практыкаванняў, мэтай якіх з`яўляецца фарміраванне і ўдасканаленне ў навучэнцаў правільнай выразнай вуснай і пісьмовай мовы ў адзінстве з развіццём іх лагічнага мыслення.

**Раздражняльнасць** — здольнасць жывых арганізмаў рэагаваць у той або іншай форме на разнастайныя ўздзеянні навакольнага асяроддзя. Раздражняльнасць з`яўляецца адной з асноўных прымет жывой матэрыі.

**Разуменне** — працэс мыслення, накіраваны на выяўленне істотных якасцяў прадметаў і з`яў рэчаіснасці, якія пазнаюцца ў жыццёвым і тэарэтычным вопыце чалавека. У аснове разумення ляжыць складаная аналітыка-сінтэтычная дзейнасць мозга, устанаўленне старых умоўных сувязяў і ўтварэнне на іх аснове сістэм новых умоўных сувязяў.

**Расказ** — метад навучання, які прадугледжвае вусны выклад зместу вучэбнага матэрыялу ў апавядальнай форме.

**Расклад вучэбных заняткаў у школе** — дакумент, які вызначае наслядоўнасць выкладання на працягу кожнага дня вучэбнага тыдня прадметаў, прадугледжаных вучэбным планам.

**Рассеянасць** — псіхічны стан, які характарызуецца няўстойлівасцю ўвагі, частым адцягненнем яе ад таго, на чым яна павінна быць сканцэнтравана. Рассеянасць або мае часовы характар, або з'яўляецца адносна ўстойлівай рысай асобы.

**Руская мова ў школе** — вучэбны прадмет, выкладанне якога мае мэтай даць школьнікам асноўныя звесткі аб сучаснай літаратурнай мове, яе важнейшых фанетычных асаблівасцях, слоўнікавым складзе і граматычным ладзе, выпрацаваць уменні і навыкі, неабходныя для свабоднага карыстання мовай.

**Рымскае выхаванне** — сукупнасць формаў, метадаў выхавання і навучання, існаваўшых у Старажытным Рыме (канец VI — сярэдзіна I ст. да н. эры).

**Рытар** (грэч. *rhetor*) — прамоўца і настаўнік красамоўства ў Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме.

**Рыцарскае выхаванне** — сістэма выхавання старэйшых сыноў свецкіх феадалаў, існаваўшая ў сярэднія вякі.

**Рэальная адукацыя** (лац. *realis* — сапраўдны) — тып агульнай сярэдняй адукацыі, у аснову якой пакладзена засваенне навучэнцамі практычна карысных ведаў. Першае месца пры гэтым адводзіцца вывучэнню прадметаў прыродазнаўча-матэматычнага цыклу: фізікі, матэматыкі, хіміі, біялогіі, геаграфіі і інш.

**Рэктар** (лац. *rector* — кіраўнік) — кіраўнік вышэйшай навучальнай установы.

**Рэферат** (лац. *referre* — дакладваць, паведамляць) — кароткі выклад у пісьмовай форме або ў форме публічнага выступлення зместу кнігі, навуковай працы.

**Рэфлекс** (лац. *reflexus* — адлюстраванне) — рэакцыя жывога арганізма на знешнія ці ўнутраныя раздражненні.

**Рэцэптары** (лац. *receptor* — успрымаю) — спецыфічныя канцавыя ўтварэнні адчувальных нервовых валокнаў (у арганізмах жывёл і чалавека), якія ўспрымаюць раздражненні з навакольнага і ўнутранага асяроддзя і ператвараюць іх у нервовыя імпульсы.



# С

**Самаадукацыя** — набыццё ведаў самастойнай працай па-за навучальнымі ўстановамі, без дапамогі выкладчыкаў.

**Самавыхаванне** — сістэматычная і свядомая дзейнасць чалавека, накіраваная на выпрацоўку і ўдасканаленне сваіх станоўчых якасцяў і пераадоленне адмоўных.

**Самастойная праца навучэнцаў** — дзейнасць навучэнцаў у працэсе навучання, якая выконваецца па заданні настаўніка, пад яго кіраўніцтвам, але без яго непасрэднага ўдзелу.

**Сачыненне** — від самастойнай пісьмовай працы навучэнцаў, звязаны з выкладаннем сваіх думак на пэўную тэму. У адных выпадках сачыненне грунтуецца на літаратурным матэрыяле, у другім — на асабістым жыццёвым вопыце і непасрэдных назіраннях аўтара.

**Светапогляд** — сістэма поглядаў на рэчаіснасць, у якіх чалавек выказвае свае адносіны да навакольнага прыроднага і сацыяльнага асяроддзя.

**Свядомасць** — працэс адлюстравання рэчаіснасці мозгам чалавека, што ўключае ўсе формы псіхічнай дзейнасці і абумоўлівае мэтанакіраваную дзейнасць чалавека.

**Семінар** (лац. *seminarium* — рассаднік) — 1) адзін з асноўных відаў практычных заняткаў у вышэйшай навучальнай установе па якому-небудзь спецыяльнаму прадмету, тэме. 2) Групавыя заняткі, гурток для павышэння кваліфікацыі.

**"Сем вольных мастацтваў"** (лац. *"septem artes liberales"*) — вучэбныя прадметы ("навукі") сярэдневяковай сярэдняй школы і "артыстычных" (падрыхтоўчых) факультэтаў універсітэтаў. Уключалі граматыку, рыторыку, дыялектыку, арыфметыку, геаметрыю, астраномію, музыку.

**Сесія экзаменацыйная** (лац. *sessio* — пасяджэнне) — перыяд здачы экзаменаў у вышэйшай або сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе, вызначаны вучэбным планам для пэўнай спецыяль-

наеці. Як правіла, у навучальным годзе бывае дзве экзаменацыйныя сесіі— зімовая і летняя.

**Сінтэз** (грэч. *synthesis* — злучэнне, спалучэнне) — практычнае або мысленнае злучэнне частак ці ўласцівасцяў (бакоў) аб'екта вывучэння ў адзінае цэлае.

**Скаўт** (англ. *scout* — разведчык) — адна з формаў арганізацыі дзяцей.

**Слых** — адно з пяці знешніх пачуццяў, якое дае магчымасць успрымаць гукі.

**Спадчыннасць** — захаванне і перадача праз пакаленні падабенства ў знешняй і ўнутранай будове, а таксама і ў жыццёвых працэсах арганізма.

**Спевы (музыка) у школе** — вучэбны прадмет у I — VIII класах агульнаадукацыйнай школы Беларусі, мэтай якога з'яўляецца эстэтычнае выхаванне дзяцей сродкамі музыкі. Назва вучэбнага прадмета — "спевы" — умоўная. Яна адлюстроўвае толькі частку яго зместу. У школьнай праграме па спевах прадугледжаны тры асноўныя раздзелы: харавыя спевы, слуханне музыкі і музычная грамата.

**Спартанскае выхаванне** — сістэма выхавання фізічна моцных, вынослівых і адданых Радзіме воінаў-рабаўладальнікаў, якая існавала ў VIII-IV стст. да н. э. у Спарце (Стар. Грэцыя).

**Спецыяльная педагогіка** (лац. *specialis* — асаблівы) — навука аб выхаванні і навучанні анамальных дзяцей. У адпаведнасці з асноўнымі катэгорыямі анамальных дзяцей спецыяльная педагогіка падраздзяляецца на сурдапедагогіку, алігафрэнапедагогіку, тыфлапедагогіку, лагапедыю.

**Стамленне** — стан арганізма, які ўзнікае ў выніку фізічнага і разумовага напружання, а таксама пад уздзеяннем асноўных эмоцый. Характарызуецца зніжэннем працаздольнасці.

**Стараста** — асоба, якая выбіраецца або прызначаецца з асяроддзя вучняў, студэнтаў для нагляду за выкананнем дысцыпліны, правілаў унутранага распарадку ў класе, групе, гуртку.

**Студэнт** (лац. *studens* — які старанна працуе, займаецца) — навучэнец вышэйшай навучальнай установы.



**Стыпендыя** (лац. *stipendium* — плата) — штомесячная грашовая дапамога студэнтам, аспірантам і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

**Сурдапедагогіка** (лац. *surdus* — глухі + педагогіка) — галіна педагагічнай навукі, якая распрацоўвае пытанні выхавання і навучання дзяцей з парушэннямі слыху.

**Схільнасць** — здольнасць, цяга, імкненне чалавека да якой-небудзь дзейнасці.

**Сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы** — тэхнікумы і вучылішчы, якія рыхтуюць для розных галін народнай гаспадаркі, асветы, культуры і аховы здароўя спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі з поўнай сярэдняй агульнай адукацыяй. Яны валодаюць тэарэтычнымі ведамі і практычнай падрыхтоўкай па спецыяльнасці.

**Сярэдняя адукацыя** — сукупнасць ведаў асноў навук і адпаведных уменняў і навыкаў, неабходных для атрымання спецыяльнай адукацыі або для ўдзелу ў грамадска-карыснай працы незалежна ад будучай прафесіі.

**Сярэдняя агульнаадукацыйная працоўная політэхнічная школа** — сярэдняя школа ў Беларусі, якая ажыццяўляе сумеснае і бясплатнае навучанне дзяцей з першага па адзінаццаты клас ва ўзросце ад 6 да 17 гадоў.

**Сярэдняя спецыяльная адукацыя** — працэс і вынік засваення ведаў, уменняў і навыкаў, неабходных для выканання сваіх функцыянальных абавязкаў спецыялісту сярэдняй кваліфікацыі. У Беларусі сярэдняя спецыяльная адукацыя атрымліваецца пасля заканчэння тэхнікумаў, педагагічных, медыцынскіх вучылішчаў і іншых сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

## Т

**Талент** — надзвычайныя прыродныя здольнасці.

**Трываласць засваення ведаў** — дыдактычны прынцып, які патрабуе грунтоўнасці засваення вучэбнага матэрыялу, устойлівага замацавання яго ў памяці навучэнцаў, вольнага ўзнаўлення і прымянення на практыцы.

**Тыфлапедагогіка** (грэч. *typlos* — сляпы + педагогіка) — навука, якая займаецца пытаннямі выхавання і навучання дзяцей з парушэннямі зроку.

**Тэмперамент** (лац. *temperamentum* — належныя суадносіны частак, суразмернасць) — 1) характарыстыка індывіда з боку дынамічных асаблівасцяў яго псіхічнай дзейнасці (тэмпу, рытму, інтэнсіўнасці псіхічных працэсаў), якія ўтвараюць пэўны псіхічны тып. 2) Жыццёвая энергія, здольнасць да ўнутранага уздыму, страснасць.

**Тэорыя пазнання** — вучэнне аб крыніцах і асноўных заканамернасцях пазнавальнага працэсу, аб формах і метадах пазнання чалавекам навакольнага асяроддзя. Існуюць два падыходы да пытанняў пазнання: *матэрыялістычны* і *ідэалістычны*.

**Тэхнічныя сродкі навучання** — комплекс разнастайных святлотэхнічных і гукавых дапаможнікаў і апаратуры, якія выкарыстоўваюцца ў вучэбным працэсе.

## У

**Увага** — накіраванасць псіхічнай дзейнасці на адны прадметы або з'явы рэчаіснасці пры адначасовым адцягненні ўвагі ад усяго астатняга. Гэта дае магчымасць лепш адлюстраваць у свядомасці чалавека аб'ект яго ўвагі.

**Узбуджэнне** — адзін з асноўных фізіялагічных працэсаў, які ўзнікае ў кожным арганізме, у кожнай клетцы пры раздражняльным уздзеянні асяроддзя і характарызуецца пераходам жывой істоты са стану адноснага фізіялагічнага пакою ў стан дзейнасці.

**Узроставая псіхалогія** — раздзел псіхалогіі, які вывучае заканамернасці псіхічнага развіцця чалавека і яго псіхалагічныя асаблівасці на розных узроставых ступенях (дзяцінства, маленства, юнацтва і г.д.).

**Узроставыя асаблівасці** — характэрныя для таго ці іншага ўзроставага перыяду анатама-фізіялагічныя і псіхалагічныя асаблівасці.

**Уменне** — падрыхтаванасць да практычных дзеянняў, якія выконваюцца хутка, дакладна, свядома, на аснове засвоеных ведаў і жыццёвага вопыту.



**Універсітэт** (лац. *universitas* — сукупнасць) — вышэйшая навучальная і навуковая ўстанова з рознымі аддзяленнямі (факультэтамі) па гуманітарных і прыродазнаўча-матэматычных навуках.

**Унутрышкольны кантроль** — сістэматычная, мэтанакіраваная праверка працы настаўніка адміністрацыяй школы, адна з формаў кіраўніцтва педагагічным калектывам. Добра пастаўлены ўнутрышкольны кантроль садзейнічае паляпшэнню вучэбна-выхаваўчай працы школы, дае магчымасць бачыць, як і наколькі выкананы намечаны план, дазваляе своечасова ўнесці неабходныя змены ў арганізацыю вучэбна-выхаваўчай працы.

**Унушальнасць** — асаблівая падатлівасць чалавека уздзеянню іншых людзей без крытычнай ацэнкі гэтага ўздзеяння. Часцей за ўсё пад унушальнасцю разумеюць асаблівую ўспрымальнасць да славеснага ўнушэння. Унушальныя людзі добра надпарадкоўваюцца ўказанням і парадам іншых, нават калі гэтыя парады супярэчаць іх асабістым перакананням і інтарэсам.

**Унушэнне** — від псіхічнага уздзеяння (галоўным чынам славеснага) на чалавека (парада, загад) з мэтай выклікаць у яго пэўныя ўяўленні, меркаванні.

**Урок** — асноўная арганізацыйная форма навучання ў школах Беларусі. *Урок* з'яўляецца адзінкай класна-ўрочнай сістэмы навучання. Урок праводзіцца з пастаянным саставам навучэнцаў, па пастаяннаму раскладу. Працягласць урока 45 хвілін.

**Усеагульнае навучанне (усенавуч)** — навучанне ўсіх без выключэння дзяцей пэўнага ўзросту ў агульнаадукацыйных школах, якія даюць мінімум ведаў. Патрабаванне ўвесці ўсеагульнае навучанне было сфармулявана Т. Морам у 16 ст.

**Усебаковае развіццё асобы** — развіццё розных бакоў асобы, яе фізічных і духоўных сіл, усіх яе творчых здольнасцяў і дараванняў. Ідэя ўсебаковага развіцця асобы бярэ свой пачатак у антычнай Грэцыі.

**Успрыманне** — наглядна-вобразнае адлюстраванне прадметаў і з'яў рэчаіснасці ў іх аб'ектыўнай цэласнасці і шматбаковасці. Успрыманне непарыўна звязана з адчуваннем, узнікае на яго аснове пры непасрэдным уздзеянні прадметаў і з'яў (колер, гукі, пахі і г. д.). Успрыманне адлюстроўвае прадметы і з'явы цэласна, у сукупнасці іх разнастайных уласцівасцяў і частак.

**Учынак** — дзеянне чалавека, якое разглядаецца праз суадносіны з сацыяльнымі нормамі, у тым ліку этычнымі і прававымі, прынятымі грамадствам. Учынкі ацэньваюцца як *маральныя* ці *амаральныя*, *сумленныя* ці *несумленныя* і інш. Ва ўчынках і іх сістэме выражаецца характар чалавека, такія яго рысы, як адкрытасць, шчырасць, настойлівасць, экспансіўнасць, крывадушнасць, замкнутасць, скрытнасць і інш.

**Уяўленне** — складаны псіхічны працэс, у выніку якога ствараюцца новыя вобразы на аснове ранейшых успрыманняў.

## Ф

**Факультатыўны курс** (лац. *facultativus*) — неабавязковы вучэбны курс, прадмет, які вывучаецца студэнтамі ВНУ па іх выбару з мэтай пашырэння і паглыблення навукова-тэарэтычных ведаў.

**Факультатыўныя заняткі** — неабавязковыя для наведвання заняткі, якія праводзяцца для паглыблення і пашырэння ведаў па асобных курсах, тэмах або пытаннях у адпаведнасці з заданнямі і зацікаўленасцю навучэнцаў.

**Факультэт** (лац. *facultas* — здольнасць, магчымасць) — у Беларусі і іншых краінах вучэбна-навуковае і адміністрацыйнае аддзяленне ВНУ, дзе ажыццяўляецца падрыхтоўка студэнтаў па адной ці некалькіх родных спецыяльнасцях, павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў пэўнай галіны.

**Фенаменальная памяць** — выключная здольнасць хутка запамінаць і дакладна ўзнаўляць значную колькасць інфармацыі, нават без унутранай, сэнсавай сувязі.

**Фізіка** — адзін з асноўных прыродазнаўчых вучэбных прадметаў агульнаадукацыйнай сярэдняй школы. Вывучаецца ў сярэдніх і старэйшых класах сярэдняй школы.

**Фізічнае выхаванне** — адна з састаўных частак агульнай сістэмы выхавання, мэтай якой з'яўляецца ўмацаванне здароўя чалавека і яго правільнае фізічнае развіццё.

**Фізічная культура** — вучэбны прадмет у агульнаадукацыйнай школе, мэта якога — садзейнічаць фізічнаму развіццю і ўмацаванню здароўя навучэнцаў.



## Х

**Характар** (грэч. *charakter* — рыса, асаблівасць) — сукупнасць псіхічных уласцівасцяў чалавека, якія праяўляюцца ў яго паводзінах.

**Хатнія заданні** — састаўная частка працэсу навучання. Арганізуецца настаўнікам з мэтай замацавання і паглыблення ведаў навучэнцаў, атрыманых на ўроку, а таксама для падрыхтоўкі іх да актыўнага ўспрымання новага вучэбнага матэрыялу. Хатнія заданні садзейнічаюць развіццю навыкаў самастойнай працы, фарміраванню інтарэсаў, выхаванню волі і адказных адносін да вучобы.

**Хімія** — вучэбны прадмет агульнаадукацыйнай школы, у змест якога ўваходзяць асновы *хіміі — навукі аб рэчывах*, іх складзе і будове, аб працэсах пераўтварэння адных рэчываў у другія.

**Хрэстаматыя** (грэч. *chrestomatheia*) — вучэбны дапаможнік у выглядзе зборніка выбраных твораў або ўрыўкаў з іх.

## Ш

**Школа** (грэч. *schole*) — навучальная ўстанова, якая ажыццяўляе агульную адукацыю і выхаванне маладога пакалення, а таксама будынак, дзе гэта ўстанова размяшчаецца.

**Школазнаўства** — галіна педагагічнай навукі, якая даследуе змест і метады кіравання школьнай справай, раскрывае асаблівасці сістэмы кіраўніцтва школай, арганізацыі яе працы.

**Школа матэматычных і навігацкіх навук** — першая ў Еўропе дзяржаўная рэальная школа. Была заснавана па ўказу Пятра I ад 14 студзеня 1701 г. для падрыхтоўкі спецыялістаў ваенных і марскіх спраў, судабудаўнікоў, геадэзістаў і інш.

## Э

**Экзамен** (лац. *examen*) — адна з формаў праверкі ведаў навучэнцаў. Экзамен упершыню з'явіўся ў Старажытным Кітаі.